# ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ

ЧАСОПІС
СОЦЫЯЛІСТЫЧНАГА
БУДАЎНІЦТВА
С.-ГАСПАДАРКІ



№ 15-16

ЛІСТАПАД
1930

ВЫДАНЬНЕ
НАРКАМЗЕМУ
БЕЛКАЛГАСЦЭНТРУ
БССР

## ЗЬМЕСТ


Стар.

*Рачыцкі*—Трынаццаць год . . . . . . 1
*Залескі*—Дасягненьні ў калгасным будаўніцтве і ўдзел жанчын . 7
*Бондар*—Кулацкая палітыка прышчэпаўшчыны. . . . 9

**Падрыхтаваццa.**

*Хацкевіч А.*—Да перавыбараў саветаў . . . . 16
*Мікуліч А.*—Сельскія саветы і задачы калектывізацыі . . 22
*Рыўкін М. А.*—Да пуску Бел. ДРЭС'у імя т. Сталіна . . 26

**Шырэй фронт калектывізацыі.**

*Адамчук*—Адзін з лепшых . . . . . . 30
*Алёшка А.*—„Прамень Камуны" . . . . . 35
*Дымкоў А.*—Як жыве калгас „Серп" . . . . 38
*Сімкін Б.*—Арганізацыя працы і разьмеркаваньне ўраджаю ў калгасе „Баявік" . 40
*С.*—Хто атрымаў прэмію . . . . . . . 44

**„...Сьвіньня нам дапаможа найбольш хутка вырашыць мясную праблему" (Якаўлеў).**

*Аўчыньнікаў*—К рашаючаму штурму мясных вышынь . . 46
*Жарын М.*—Як утрымоўваць сьвіней у калгасах і саўгасах . 49

**Беражэце лес.**

*Файнберг І. Л.*—Лес як сыровая база індустрыялізацыі краіны . 51
*Сакалоўскі І.*—Аб ахове лясоў . . . . . . 53

# ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ

ЧАСОПІС САЦЫЯЛІСТЫЧНАГА ЗЕМЛЯРОБСТВА І АГРАНАМІЗАЦЫІ НАСЕЛЬНІЦТВА

ОРГАН НАРКАМЗЕМУ І БЕЛКАЛГАСЦЭНТРУ БССР

Выходзіць 2 разы ў месяц

№ 15-16 (20-21) | Лістапад | 1930 г.




## ТРЫНАЦЦАЦЬ ГОД

**АЖЫЦЬЦЯЎЛЯЮЧЫ ЗАВЕТЫ ЛЕНІНА, КАМУНІСТЫЧНАЯ ПАРТЫЯ І РАБОЧАЯ КЛЯСА ДАБІЛАСЯ АГРАМАДНЕЙШЫХ ПОСЬПЕХАЎ У КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ. АСНОВАЙ ГЭТЫХ ПОСЬПЕХАЎ ЗЬЯВІЎСЯ МАГУТНЫ РОСТ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ ІНДУСТРЫІ.**

Вялікі Кастрычнік 1917 г. ачысьціў шлях да сацыялістычнага разьвіцьця прамысловасьці і сельскай гаспадаркі савецкіх краін.

За пройдзены пэрыяд савецкага будаўніцтва, пралетарыят Савецкай Беларусі, разам з пралетарыятам усяго СССР і ў саюзе з бядняцка-серадняцкім сялянствам, пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі, дасягнуў вялізарнейшых посьпехаў ва ўсіх галінах гаспадарчага і культурнага сацыялістычнага будаўніцтва.

Пры дапамозе Савецкага Саюзу—БССР, стаўшы на шлях шпаркіх тэмпаў індустрыялізацыі краіны, асабліва спачатку пяцігодкі вялікіх работ—ужо зьмяніла самы характар народнай гаспадаркі. Прамысловасьць, разбураная і зруйнаваная за час імпэрыялістычнай і грамадзянскай вайны, нямецкай і белапольскай акупацыі, аднаўляецца да 1926-27 г. і шпаркімі і высокімі тэмпамі сацыялістычнага будаўніцтва першых двух гадоў пяцігодкі, набывае вядучую і кіруючую ролю ў будаўніцтве народнай гаспадаркі.

Апіраючыся на ўзрастаючую сацыялістычную прамысловасьць сельская гаспадарка стала на шлях сацыялістычнай рэканструкцыі—пераход ад індывідуальнай раздробленай формы вядзеньня да аграмаджанай—саўгасаў і калгасаў.

У справе будаўніцтва сацыялістычнай прамысловасьці і сельскай гаспадаркі пралетарыят у саюзе з бядняцка-серадняцкімі масамі сялянства пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі—дабіўся вялізарнейшых нячуваных у гісторыі посьпехаў.

Атрымаўшы ад старога ладу дробную індывідуальную сельскую гаспадарку, разбурачую за час імпэрыялістычнай і грамадзянскай вайны. Савецкая ўлада шпаркімі тэмпамі аднаўляе і разьвівае сельскую гаспадарку зусім на другіх сацыяльных началах.

Пасеўная плошча ўжо да 1923 г. была даведзена да даваеннага ўзроўню, а ў 1930 г. яна перавысіла на 58 проц. пасеўную плошчу 1916 г.

Паступова павялічвалася колькасьць жывёлы, узрастала ўраджайнасьць і валавая прадукцыя.

Вялізарнымі сацыяльна-эканамічнымі зьдвігамі і посьпехамі ў разьвіцьці сельскай гаспадаркі азнаменаваліся першыя два гады пяцігодкі і ў асаблівасьці 1929/30 год.

У гэтым годзе вядучую ролю набылі аграмаджаныя формы вытворчасьці: саўгасы і калгасы.

Аграмаджаны сэктар сельскае гаспадаркі (саўгасы і калгасы) у 1927/8 г. складаў усяго 2 проц., а да сьвяткаваньня 13-ай гадавіны Кастрычнікавай рэвалюцыі ён дасягае 18 проц.

У калгасным будаўніцтве 1929/30 г. удзельнічае каля 100.000 гаспадарак, аб'яднаных у 3.320 калгасаў, супроць 8.500 гасп. аб'яднаных у 994 калгасы ў першым 1927/28 годзе пяцігодкі.

Удзельная вага плошчы ў калгасах узрасла з 1,1 проц. у 1927/28 г. да 15,0 проц. у 1929/30 г. (пяцігодка выканана ў два гады).

Валавая прадукцыя ў сельскай гаспадарцы ўзрасла ў 1927/28 г. на 4,2 проц., у 1928/29 г. на 4,9 проц., а ў 1929/30 г. на 7,6 проц.

Таварная частка аграмаджанага сэктару ў 1929/30 г. значна ўзрасла, і па хлебазагатоўкам саўгасы і калгасы дадуць 25—30 проц. усяго пляну нарыхтовак. Па некаторым відам прадуктаў сельскае гаспадаркі таварнасьць аграмаджанага сэктару яшчэ вышэй і дасягае да 50 проц., і па гародніне перавышае 50 проц. (ня гледзячы на прышчэпаўскую палітыку ў мінулым—хутарызацыю).

Штогодна праводзяцца вялізарнейшыя работы па мэліарацыі балот з укладаньнем мільённых сродкаў па дзяржаўнаму бюджэту, ня лічачы затрат па лініі каапэраванага насельніцтва (мэліарацыйных таварystваў).

У 1929/30 г. на мэліарацыю асыгнавана 7 мільёнаў руб., а ў 1930/31 г. будзе асыгнавана 25—30 мільёнаў руб. Гэтае вялізарнейшае мерапрыемства дае магчымасьць кожны год уцягваць новыя плошчы зямель і лугоў у гаспадарчае карыстаньне і арганізаваць на іх фабрыкі сацыялістычнага земляробства—саўгасы і калгасы.

1929/30 гаспадарчы год быў пераломным у галіне спэцыялізацыі трэсьціраваных саўгасаў. З агульнай сыстэмы саўгасаў выдзелена 60 саўгасаў для разьвіцьця прамысловага сьвінаводзтва, 15 саўгасаў для разьвіцьця насенаводзтва, у першую чаргу насеньня траў, а астатнім саўгасам прыданы спэцыялізаваны характар: малочна-масьляны, птушкаводны, ільна-канапляводны, пладова-гародні і г. д.

Па прыкладу саўгасаў праводзіцца работа па спэцыялізацыі калгасаў у першую чаргу ў напрамку разьвіцьця сьвінагадоўлі і малочнага жывёлаводзтва.

На вучастку працы па спэцыялізацыі саўгасаў і калгасаў, асабліва ў праблеме вырашэньня жывёлагадоўлі ў 1930 г. значна павысілася ўдзельная вага саўгасаў і калгасаў у агульным балянсе жывёлагадоўлі

краіны. У малочна-жывёлаводных саўгасах і малочных фэрмах укамплектаванасьць даведзена да 20.000 галоў малочных кароў, стада сьвіней у саўгасах і калгасах—77.900 галоў, у тым ліку ў саўгасах „Сьвінавода“ 18.700 галоў.

Расьце лік рабочых у сельскай гаспадарцы. У гэтым годзе, у саўгасах розных сыстэм маецца 8 тысяч рабочых. У 1931 годзе лічба рабочых у саўгасах вырасьце да 20 тысяч.

Усе гэтыя вялізарнейшыя дасягненьні ў сацыялістычным будаўніцтве зьявіліся вынікам правільнай ленінскай палітыкі партыі і вялізарнага працоўнага ўздыму і энтузіазму рабочае клясы, які выявіўся ў форме сацыялістычных мэгадаў працы (сацспаборніцтва, ударніцтва).

Гэтыя дасягненьні ў сельскай гаспадарцы зьявіліся на фоне агульнага ўздыму народнай гаспадаркі і вялізарных дасягненьняў у прамысловасьці. Сацыялістычная прамысловасьць зьяўляецца рычагом сацыялістычнай рэканструкцыі сельскае гаспадаркі і яе вядучая роля ва ўсім народна-гаспадарчым працэсе выяўлена з усёй відавочнасьцю. Па меры росту вытворчасьці с.-г. машынаснабжэньня адсталае наша земляробства стала падымацца на ўзровень характару індустрыяльнай вытворчасьці. У гэтым працэсе паводле ўсяго нашлі апору саўгасы і калгасы. Той факт, што ў працэсе шпаркага росту сацыялістычнай прамысловасьці саўгасы і калгасы займаюць вядучую ролю ў сельскай гаспадарцы—апракінулі задуманыя пляны кандрацьцеўцаў, якія ставілі сваёй мэтай рэстаўрацыю капіталізму праз насаджэньне хутарскай і фэрмэрскай сыстэмы.

У рэканструкцыі сельскай гаспадаркі мы дасягнулі ня толькі тэхнічнага ўздыму вытворчасьці, але і сацыяльна-эканамічнага зруху. Калектывізацыяй ахвачана 100 тысяч сялянскіх бядняцка-серадняцкіх гаспадарак і ў гэтым працэсе ў якасьці актыўных будаўнікоў сацыялістычнай гаспадаркі ўжо стаяць сотні тысяч беднякоў і серадпякоў. Гэтая армія калгасьнікаў, перабудаваўшая сваю індывідуальную гаспадарку ў аграмаджаную, зьяўляецца магутнай сілай у сацыялістычным будаўніцтве, якая ўжо ў гэтым годзе дала значнае пашырэньне пасеўнай плошчы і ўздыму тэхнікі сельскае гаспадаркі. Гэты эфэкт тым больш значны, што ён зьявіўся вынікам аднаго году працы ва ўмовах вялікага недахопу складаных машын і мэханізаванай цягавай сілы (трактарнай), а таксама шэрагу арганізацыйных дэфэктаў, асабліва па арганізацыі працы і г. д. Можна сказаць, што гэты эфэкт зьяўляецца вынікам абагуліваньня звычайнага сялянскага інвэнтару, рабочай жывёлы і працы і дапамогі дзяржавы крэдытамі і г. д.

Вынік гэтага году аграмаджанай вытворчасьці, яскрава падкрэсьліваў усе перавагі вядзеньня калектыўнай буйнай гаспадаркі. Ураджайнасьць у калгасах вышэй сялянскай гаспадаркі: сярэдні прыбытак працы калгасьніка ўжо ў гэтым годзе дасягнуў 800 руб., або на 50 проц. вышэй, чым у аднаасобнай гаспадарцы. Зразумела, што ўсе гэтыя перавагі калгаснай вытворчасьці зьяўляюцца прыцягальнай сілай да далейшага разьвіцьця калгасаў і ўцягненьня ў іх усіх тых бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, якія пакуль што засталіся па-за калгасамі. Гэты новы прыліў пачаўся ўжо на аснове гаспадарчых вынікаў першага году шырокай практыкі калгаснай вытворчасьці.

У бягучым 1929/30 г. пры масавым руху ў калгасы мы мелі факты вялізарнейшых цяжкасьцяў.

Праца праходзіла ў абставінах упартай барацьбы з кулацтвам, якое імкнулася спыніць пасьпяховы і масавы рух сацыялістычнага

будаўніцтва, барацьба з скажэньнямі палітыкі партыі як з боку правых укланістых, так і з боку „левых“ перагібшчыкаў, дапусьціўшых у шэрагу месц антыленінскія адносіны да сялянства, што выклікала вядомы адліў з калгасаў. Гэтыя дзеяньні давалі матар'ял для агітацыі супроць калектывізацыі і, як вядома, у той час мы мелі вялікія страты ў галіне жывёлаводзтва, якая найбольш чулася ў працэсе пераходу гаспадаркі з аднае формы ў другую.

Ня гледзячы на ўсё гэта ў бягучым годзе мы дасягнулі: а) ахвату калектывізацыяй да 100.000 бядняцка-серадняцкіх гаспадарак; б) шырокага разьвіцьця саўгасаў з пашырэньнем іх зямельнай тэрыторыі да 300.000 *га*; в) пашырэньня пасеўнай плошчы з 3.503 тыс. гект, да 3.653,7 тыс. *га*; г) разгортваньня ўпяршыню 7 машына-трактарных станцый з пускам на палі саўгасаў і калгасаў да 700 трактараў; д) будаўніцтва малочных фэрм па саўгасам, калгасам і каапэрацыі з укамплектаваньнем 18.500 галоў дойных кароў і па глыбінным калгасам 17.000 галоў; значнага ўздыму вытворчасьці сельскай гаспадаркі і ж) рашучага наступленьня на кулацтва і ліквідацыі яго як клясы ў паасобных раёнах суцэльнай калектывізацыі.

Выходзячы з дасягненьняў гэтага году і апіраючыся на гіганцкі разгортваючуюся прамысловасьць, мы прыступілі да ажыцьцяўленьня праграмы сацыялістычнага будаўніцтва 3 году пяцігодкі. 3-ці год пяцігодкі павінен быць рашаючым у ажыцьцяўленьні пяцігодкі ў 4 гады, што цьвёрда і яскрава паказаў у рашэньнях XVI партзьезд.

Генэральная лінія партыі ў праграме работ па сельскай гаспадарцы 1931 г. у адносінах павышэньня вытворчасьці і эфэктыўнасьці гаспадаркі павінна разгортвацца ў двух напрамках: па-першае — па лініі далейшага ахвату новых зямель для пашырэньня пасеўнай плошчы як для разьвіцьця тэхнічных культур, так і ў асаблівасьці для пабудовы базы будаўніцтва таварных жывёлаводных гаспадарак—малочных і сьвінаводных. У гэтым напрамку ставіцца задача ў 1931 г. уцягнуць у гаспадарчае карыстаньне 30 тыс. *га* новых зямель і лугоў, мэліараваных у папярэднія гады. Пашырэньне пасеўнай плошчы вычэрпваецца ня толькі гэтымі магчымасьцямі. Задача рашучага наступленьня на папары, дазволіць пашырыць пасеўную плошчу на 200 тыс. *га*. Старая нерацыянальная сыстэма гаспадаркі з году ў год не скарыстоўвае да 25 проц., а ў асобных раёнах і да 33 проц. пахаці.

Мы маем вялізарныя магчымасьці пашырыць пасеўную плошчу законт асваеньня так званых „пустошных“ і „неўжытковых зямель“.

Усе гэтыя магчымасьці былі зачынены для старой гаспадаркі, якая была скована путамі кулацкай і панскай эксплёатацыі. Але за тое яны адчынены для сацыялістычнай гаспадаркі—саўгасаў і калгасаў.

Рост пасеўнай плошчы і ўдзельная вага ў ёй сэктароў арыентыровачна.

| Гады | Саўгасы | | Калгасы | | Асобныя гаспадаркі | | Разам | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Плошча ў тыс. *га* | у % | Плошча. ў тыс *га* | у %% | Плошча ў тыс. *га* | у %% | Плошча ў тыс. *га* | у %% |
| 1929-30 . . . . | 60,5 | 1,7 | 546,0 | 15,0 | 3.027,1 | 83,3 | 3.663,6 | 100 |
| 1930-31 . . . . | 180,2 | 4,4 | 1. 188 | 29,1 | 2.714,8 | 66,5 | 4.083,0 | 100 |

Як відаць з табліцы пры агульным пашырэньні пасеўнай плошчы на 450 тыс. *га*, або на 12,4 проц., а яравых на 17,4 проц. у параўнаньні з бягучым годам, большая доля пашырэньня прыпадае на саўгасы і калгасы. Саўгасы сваю пасеўную плошчу павінны павялічваць у 3 разы.

Пасеўная плошча ў калгасах, прымаючы пад увагу пачаўшыся зрух—вырасьце ня менш як у два разы. Саўгасы пашыраюць сваю пасеўную плошчу законт ахвату новых зямель. Калгасы пашыраюць пасеўную плошчу шляхам ахвату новых зямель у працэсе арганізацыі калгасаў і ўцягненьня бядняцка-серадняцкіх гаспадарак і лепшага выкарыстаньня зямель у аграмаджанай гаспадарцы.

Другі напрамак разьвіцьця сельскае гаспадаркі ў пляне работ 1931 г. зводзіцца да задачы інтэнсыфікацыі сельскай гаспадаркі. Праблема павышэньня ўраджайнасьці, арганізацыі рацыянальнага жывёлаводзтва, прымяненьня ў сельскай гаспадарцы дасягненьняў агранамічнай навукі, высоўваецца на даны адрэзак часу, як адна з галоўнейшых задач. Мы ставім задачай у 1931 г. павялічыць ураджай на 9—10 проц. у параўнаньні да ўраджаю гэтага году.

Такое-ж значнае павышэньне вытворчасьці ставіцца і ў галіне малочнай гаспадаркі: удойлівасьць павялічваецца з 10,13 цэнт. да 11,17 цэнт. у сярэднім, па саўгасам удойлівасьць павялічваецца з 17 цэнт. да 20,2 цэнт., а па калгасам з 13,3 цэнт. да 14,0 цэнт. у год.

Разьвіцьцё ў бок тэрытарыяльнага пашырэньня вытворчасьці і ў бок паглыбленьня інтэнсыфікацыі гаспадаркі ёсьць тая падстава, на якой наша аграмаджаная гаспадарка (саўгасы і калгасы) дагоніць і перагоніць перадавую гаспадарку капіталістычных краін.

Праблема тэхнічных культур праграмай работ 3 года пяцігодкі выражаецца вялізарным ростам пасеўных плошчаў пад ільном і канаплёй. Запросы прамысловасьці і ўмовы ўздыму сельскае гаспадаркі дыктуюць неабходнасьць фарсаванага пляну разьвіцьця ільна і канапель. Пасеўная плошча ільна ў 150 тыс. *га* ў бягучым годзе пашыраецца да 240 тыс. *га* ў 1931 г., або рост на 53 проц. Канаплі з 21,6 тыс. *га* гэтага году да 40,0 тыс. у 1931 г. Аграмаджаны сэктар сельскае гаспадаркі—саўгасы і калгасы ў галіне разьвіцьця тэхнічных культур бяруць на сябе да 35 проц. усёй пасяўной плошчы ільна і канапель. У той час, як па агульнай пасеўнай іх удзельная вага 33,6%. У галіне вытворчасьці ільна і канапель будуць працаваць спэцыялізаваныя саўгасы і калгасы. Асобае разьвіцьцё культура ільна павінна атрымаць у ільнаводных раёнах, дзе яна павінна заняць у севазвароце яравых прыкладна—20—25 проц.

Трэба адзначыць, што ня гледзячы на тое, што саўгасы і калгасы ў прамысловым ільнаводзтве і канапляводзтве займаюць вядучую ролю ў пляне работ 3 года пяцігодкі, зварочваецца ўвага і на індывідуальную сялянскую гаспадарку, каб на базе разьвіцьця тэхнічных культур, з разгортваньнем у першую чаргу МТС у ільнаводных раёнах, падымаць тэмп калектывізацыі ў гэтых раёнах.

Валавая прадукцыя тэхнічных культур з 23.292,4 тыс. руб. у бягучым годзе ўзрастае да 39.526,0 тыс. руб. або на 26,7 проц. Асабліва важным у разьвіцьці тэхнічных культур зьяўляецца тое, што гэта вытворчасьць ставіцца на плянавую падставу—у сыстэме аграмаджанага сэктару, што гарантуе гэтай справе неабходную ўстойлівасьць.

Яшчэ больш вялізарнейшыя і адказныя задачы пастаўлены перад праграмай работ 3 году пяцігодкі ў галіне вырашэньня праблемы малака і мяса. Пры разгортваньні вялізарных па аб'ёму мерапрыемстваў

жывёлагадоўлі мы сустракаемся з выключнымі цяжкасьцямі. У галіне паляводзтва і тэхнічных культур наша прасоўваньне наперад у значнай ступені больш мяккае, бо мы асвайвалі землі яшчэ нікім не занятыя і нам патрэбны толькі машыны, прылады і кадры, што забясьпечваецца ў асноўным прамысловасьцю і навуковымі ўстановамі. Зусім другая справа ў жывёлагадоўлі, тут аграмаджаны сэктар сустракаецца з перасоўваньнем жывёлы з індывідуальнага сэктару ў саўгасы і калгасы.

У галіне жывёлаводзтва, як і па лініі і паляводзтва 3 году пяцігодкі намечана разьвіцьцё шэрагу спэцыяльных жывёлаводных саўгасных сыстэм: малочна-масьлянага, малочна-гародняга, птушкаводнага, малочных фэрм, патрэбкаапэрацыі. Сьвінагадоўля, як вялізарнейшая прамысловая вытворчасьць, грунтуецца ў спэцыяльным саўгасным трэсьце ўсесаюзнага значэньня „Сьвінаводзе“.

Праграмай работ павялічэньня пагалоўя жывёлы намечана ў 1931 г. у наступным разьмеры (у тыс. галоў) па сэктарам:

| | 1930 год | | | | 1931 год | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Саўг. | Калг. | Асобн. гасп. | Усяго | Саўг | Калг. | Асобн гасп. | Усяго | %% росту |
| Буйная раг. жывёла . | 38,7 | 434,9 / 247,3*) | 1.267,6 | 1.741,2 | 75,3 | 1.069,6 | 1.059,1 | 2.204,0 | 26,5 |
| Сьвіньні ўзрослыя . | 19,6 | 150,8 / 30,0*) | 432,8 | 603,2 | 52,0 | 452.5 / 105,0 | 400,4 | 904.9 | 50,0 |

Па саўгасам буйная рагатая жывёла павялічваецца з 38,7 тыс. галоў да 75,3 тыс. галоў або ў два разы, а па калгасам з 434,9 тыс. галоў да 1.069,6 тыс. галоў, больш чым у 3 разы.

Уся работа па разьвіцьцю жывёлагадоўлі павінна папоўніць той прабел, які мы маем у галіне забясьпечаньня краіны прадуктамі жывёлагадоўлі.

Такім чынам праграмай работ 1931 г. у галіне рэканструкцыі сельскай гаспадаркі мы намецілі вялізарнейшыя тэмпы. Для ажыцьцяўленьня гэтай праграмы трэба дабіцца, каб усе ўдзельнікі, пачынаючы ад рабочага саўгаса, калгасьніка і бядняцка-серадняцкай гаспадаркі аж да кіруючых апаратам, сталі як адзін на барацьбу за выкананьне высокіх тэмпаў і за якасьць вытворчасьці. Як ніколі павінна быць разгорнута ў рашаючым годзе пяцігодкі ўдарніцтва, сацыялістычнае спаборніцтва і інш. формы рэвалюцыйнай творчасьці.

Сьвяткаваньне 13-ай гадавіны Кастрычнікавай рэвалюцыі павінна зьявіцца яшчэ большай мабілізацыяй творчых сіл на выкананьне высокіх тэмпаў сацыялістычнага будаўніцтва сельскае гаспадаркі.

**Рачыцкі.**

---

*) У назоўніку колькасьць аграмаджаная ў калгасах.

**„Разгарнуць работу па калектывізацыі так, каб забясьпечыць калектывізацыю да 20 проц. агульнай колькасьці гаспадарак БССР да 1 студзеня 1931 г.“.**

**(З пастановы пленуму ЦК КП(б)Б).**

# ДАСЯГНЕНЬНІ
## Ў КАЛГАСНЫМ БУДАЎНІЦТВЕ
## І ЎДЗЕЛ ЖАНЧЫН

Да дню трынаццатай гадавіны Кастрычнікавай рэвалюцыі мы маем вялікія дасягненьні ў справе перабудовы дробнай аднаасабовай бядняцка-серадняцкай гаспадаркі ў буйную калектыўную. Дасягнутыя посьпехі мы маем, выключна, дзякуючы рашучаму змаганьню за генэральную лінію партыі, правядзеньню правільнай клясавай лініі і рашучаму наступленьню на капіталістычныя элемэнты гораду і вёскі. Маючыяся посьпехі калгаснага будаўніцтва забясьпечваюцца тым, што мільёны беднякоў і серадцякоў усьвядомілі перавагі калектыўнага землеробства і добраахвотна пайшлі ў калгасы.

За апошні год рады калгасьнікаў—актыўных удзельнікаў сацыялістычнага будаўніцтва на вёсцы вырасьлі ў некалькі раз. Тады, калі на 1 кастрычніка 1929 г. мы мелі 1713 калгасаў, на 1 кастрычніка 1930 г. маецца 3269. Колькасьць калектывізаваных гаспадарак павялічылася за гэты час з 25.000 да 92.000. Плошча пад калгасамі пашырылася з 178.000 да 700.000 *га*.

Бядняцка-серадняцкія масы пераконваюцца ў перавагах калектыўнае гаспадаркі на справе і ідуць у калгасы.

Так, напрыклад, за час уборачнай і асеньняй пасеўнай кампаніі арганізавана 230 новых калгасаў і калектывізавана звыш 6.000 двароў аднаасабовых бядняцка-серадняцкіх гаспадарак. Калгасьнікі ўжо ў першым годзе калектыўнай сваёй працы атрымліваюць значна большы прыбытак, чым яны мелі раней ад сваіх аднаасабовых гаспадарак. Гэта пацьвярджаецца тымі данымі, якія маюцца ў шэрагу калгасаў пры папярэднім разьмеркаваньні прыбыткаў і ўраджаю ў калгасах.

Неабходна адзначыць, што таварная частка прадукцыі ў калгасах значна большая, чым у аднаасабовых гаспадарках. Займаючы толькі 15 процантаў плошчы пахаці па БССР, калгасы ўжо ў гэтым годзе даюць дзяржаве, у парадку здачы лішкаў таварнае прадукцыі каля 30 процантаў усяго збожжа, якое павінна быць загатоўлена.

Індустрыялізацыя краіны, якая шпаркім тэмпам разгортваецца, стварае матар'яльную базу для мэханізацыі сельскагаспадарчай вытворчасьці і суцэльнай калектывізацыі. Ужо ў гэтым годзе калгасы БССР маюць 500 трактараў, 3500 жняярак і шмат іншага складанага інвэнтару, прымяненьнем якога значна падвышаецца вытворчасьць і палягчаецца праца кальгасьнікаў. У час сяўбы і ўборачнай кампаніі, шмат калгасаў паказалі прыклады вялікай сьвядомасьці ў справе вядзеньня буйнай гаспадаркі, высокай вытворчасьці працы, прымяняючы сацыялістычнае спаборніцтва і ўдарніцтва. Усе гэтыя посьпехі наносяць руйнуючы адпор кулаку і яго агітацыі аб тым, што калгасы разваляцца, калгасьнікі разьбягуцца, што ў калгасе будзе дрэнна жыць, што ў калгасе пасадзяць на паёк і г. д.

Калі мы паставім пытаньне:—а як-жа жанчына ўдзельнічае ў справе перабудовы сельскай гаспадаркі? Ці палепшыліся яе ўмовы жыцьця пасьля ўступленьня ў калгас? На гэтыя пытаньні мы павінны адказаць, што на гэтым вучастку можна жадаць шмат лепшага. Але-ж і тут мы маем шмат посьпехаў. Так, напрыклад: за гэты год значна пашыры-

лася сетка дзіцячых яськяў у калгасах. У 1929 г. было 28 сталых ясьляў, у гэтым годзе—216 і 1.000 часовых; сталовак у 1929 г. было 60, а ў гэтым годзе 106, акрамя тых сталовак, якія арганізаваліся часова на час уборкі і сяўбы.

Колькасьць жанчын у складзе кіруючых органаў калгасаў за апошні год значна павялічылася. У гэтым годзе мы маем у складзе праўленьняў калгасаў 1221 жанчыну, што складае ад агульнага ліку—11 проц. У гэтым годзе праз розныя курсы падрыхтаваны 1.021 жанчына, альбо 22 проц. ад усяго ліку падрыхтаваных калгасных кадраў. Сетка дэлегацкіх сходаў у калгасах значна павялічылася: у гэтым годзе маецца каля 300 дэлегацкіх сходаў.

Неабходна адзначыць, што работа ў шэрагу дэлегацкіх сходаў не пастаўлена на належную вышыню. Але-ж маюцца прыклады сьвядомага выступленьня дэлегатак, у якіх дадзен належны адпор кулаку. Разуменьне палітычных задач партыі ў сацыялістычнай перабудове вёскі. Маецца шмат выпадкаў, калі жанчыны зьяўляюцца застрэльшчыкамі сацспаборніцтва, актыўна ўдзельнічаюць у абгаварэньні гаспадарчых пытаньняў калгасаў, унясеньні прапаноў па палепшаньню работы ў гаспадарцы і сыгналізатарамі аб недахопах у калгасе („Ленінскі Шлях“, Клімаўшчына, Расьсьвет Пераможца і г. д.).

У шэрагу месц дэлегаткі-калгасьніцы дабіліся арганізаванага адняцьця царквы пад яські, прымалі актыўны ўдзел у правядзеньні хлебанарыхтовак, арганізацыі чырвоных абозаў, выяўленьні скупшчыкаў—спэкулянтаў і г. д.

У выніку такіх актыўных выступленьняў маецца шэраг нападкаў на актывістак жанчын з збоку кулакоў (Бабруйск, Мазыр, Азарычы, Тураў і інш.).

Аднак побач з тымі дасягненьнямі, якія мы маем у справе палепшаньня становішча жанчыны пасьля ўступленьня ў калгас і яе ўдзелу ў калгасным будаўніцтве, мы маем яшчэ шэраг буйных недахопаў, на зьнішчэньне якіх павінна быць зьвярнута ўвага ўсёй савецкай грамадзкасьці і ў першую чаргу мабілізаваны самі жанчыны-калгасьніцы. Так, напрыклад, сярод жанчын маецца вялікі процант няпісьменных і слаба праводзіцца работа па іх культурнаму выхаваньню. Яшчэ жанчына не заняла свайго месца ў вытворчасьці калгаснай гаспадаркі. Мы маем зусім нізкі процант удзелу жанчын у працы ў калгасе, тады калі сярэдняя занятасьць мужчыны ў рабоце калгасу ад 20 да 25 дзён у месяц, жанчыны толькі ад 12—15 дзён у месяц. Слабы ўдзел жанчыны ў кіраўніцтве гаспадаркай калгасу. Зусім мала зроблена па перабудове быту ў калгасах, вызваленьню жанчыны ад кухні, гаршкоў, дзіцячага нагляду і інш. Усе гэтыя недахопы скарыстоўвае кулак і яго агітацыя супроць калектывізацыі находзіць падыходзячую глебу сярод адсталай часткі насельніцтва—жанчын. Мы мелі выпадкі, вясной бягучага году, выступленьня супроць калектывізацыі жанчын-беднячак, якіх кулакі падпарадкавалі свайму ўплыву.

Падагульваючы дасягненьні калгаснага будаўніцтва да дню трынаццатай гадавіны Кастрычнікавай рэвалюцыі, мы павінны з большай настойлівасьцю і рашучасьцю павесьці работу па ўцягненьні жанчыны ў калгаснае будаўніцтва, за паляпшэньне яе бытавых умоў, па падвышэньню культурнага ўзроўню. У першую чаргу павінны за гэта ўзяцца самі жанчыны.

**Залескі.**

# КУЛАЦКАЯ ПАЛІТЫКА ПРЫШЧЭПАЎШЧЫНЫ

## КАНДРАЦЬЦЕЎШЧЫНА, ПРЫШЧЭПАЎШЧЫНА, БЕЛАРУСКІ НАЦЫЯНАЛ-ДЭМАКРАТЫЗМ І ІХ ШКОДНІЦКАЯ РАБОТА Ў ГАЛІНЕ СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ.

Вакол кандрацьцеўшчыны аб'ядналіся для агульнай барацьбы з пралетарскай дыктатурай і адкрытыя тэарэтыкі кулацка-капіталістычнага разьвіцьця савецкай вёскі і дробна-буржуазныя утапістыя.

Мэтай шкодніцкай арганізацыі ў сельскай гаспадарцы зьяўлялася: 1) усямерная перашкода сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі, што ў сваю чаргу павінна было выклікаць спыненьне тэмпаў індустрыялізацыі краіны, 2) садзейнасьць разьвіцьцю і ўзмацненьню капіталістычных элемэнтаў у вёсцы.

У БССР кандрацьцеўшчына найшла сабе надзейную дапамогу ў групе нацыянал-дэмакратаў, якія аб'ядналіся для шкодніцтва ў галіне сельскай гаспадаркі вакол *Прышчэпава.* Беларускія кандрацьцеўцы ня толькі сьцьвярджалі аб тым, што кулак „адзіны носьбіт прагрэса“, яны, працуючы у нашых савецкіх урадавых і навукова-дасьледчых установах, рабілі ўсё, каб замацаваць пазыцыі кулака, расчысьціць шлях яго разьвіцьцю і тым самым абмежаваць магчымасьць для росту сацыялістычнага сэктара ў сельскай гаспадарцы.

Яны ўсімі мерамі імкнуліся фарсаваць расьсяленьне на хутары, адрубы і дробныя пасёлкі, каб стварыць моцных кулакоў і тым самым перашкодзіць калектывізацыі.

Складаючы першыя пяцігодкі па сельскай гаспадарцы, *беларускія кандрацьцеўцы праблему разьвіцьця вытворчых сіл зьвязвалі выключна з разьвіцьцём індывідуальнай гаспадаркі і* адпаведна гэтаму распрацоўвалі сыстэму мерапрыемстваў. Так, у кніжцы, выданай у 1925 г. „Сельская гаспадарка Беларусі і мерапрыемствы па яе аднаўленьні“, пад рэдакцыяй Прышчэпава чытаем што:

> „бліжэйшыя пэрспэктывы аднаўленьня сельскай гаспадаркі залежаць, галоўным чынам, ад сялянскіх гаспадарак“.

У складзеных прышчэпаўшчынай пэрспэктыўных плянах ня было ніякай ні сацыяльнай, ні тэхнічнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі. У іх плянах цалкам выпала праблема трактарызацыі і электрыфікацыі. Індустрыялізацыя для іх не зьяўлялася асноўным вагаром разьвіцьця народнай гаспадаркі. Па іх думцы разьвіцьцё індустрыі залежыць ад разьвіцьця сельскай гаспадаркі, таму і ўсе мерапрыемствы дзяржавы, па іх думцы, у першую чаргу павінны быць накіраваны не, на разьвіцьцё прамысловасьці, а на разьвіцьцё сельскай гаспадаркі.

> „Вырашэньне асноўнай задачы разьвіцьця вытворчых сіл народнай гаспадаркі Беларусі залежыць раней за ўсё ад характару і тэмпу разьвіцьця яе сельскай гаспадаркі“.

І далей:

„Беларусь—краіна сельска-гаспадарчая і разьвіцьцё прамысловасьці на яе тэрыторыі залежыць ад разьвіцьця сельскай гаспадаркі“ (пэрспэктыўны плян... стар. 109 і 136, выданьне 1927 г.).

У прыведзеных словах мы бачым ня толькі нацыянальную абмежаванасьць іх аўтараў, але і неразуменьне таго, што толькі прамысловасьць, разьвіцьцё тэхнікі можа паставіць земляробства на новы шлях пасьпяховага руху наперад. Таму што толькі:

*„буйная машынная прамысловасьць і перанясеньне яе ў земляробства ёсьць адзіная эканамічная база, база сацыялізму, адзіная база для пасьпяховай барацьбы за збаўленьне чалавецтва ад ярма капіталу“* (Ленін).

Асабліва вялікае значэньне надаваў Ленін разьвіцьцю прамысловасьці ў нашай пераважнай сялянскай краіне. Ен гэтым самым указаў, што далейшае разьвіцьцё Савецкага Саюзу пры капіталістычным акружэньні павінна пайсьці не па шляху яго аграрызацыі, а па шляху індустрыялізацыі, па шляху разьвіцьця прамысловасьці і пры захаваньні яе кіруючай ролі над усімі галінамі народнай гаспадаркі.

*Сапраўднай адзінай базай*—кажа Ленін у сваім дакладзе на канфэрэнцыі ў 1921 годзе,—*для ўмацаваньня рэсурсаў, для стварэньня сацыялістычнай грамады, зьяўляецца адна і толькі адна—гэта буйная прамысловасьць. Бяз высока пастаўленай буйной прамысловасьці ня можа быць і гутаркі аб ім у адносінах краіны сялянскай.*

Калі разьвіваецца прамысловасьць мэталёвая, з вырабам сельскагаспадарчых машын; хэмічная, з вырабам штучнага ўгнаеньня і г. д., дык сельская гаспадарка пачынае мець у гэтай прамысловасьці свайго магутнага памочніка, сваю апору, якая толькі і зможа ўрэшце ўнесьці новыя спосабы ў апрацоўцы зямлі і пасьпяхова накіраваць ўперад разьвіцьцё вытворчых сіл у сельскай гаспадарцы.

Зусім іншае сьцьвярджае кандрацьцеўшчына, якая брала стаўку не на індустрыялізацыю, а на аграрызацыю нашай краіны, на яе залежнасьць ад замежнага капіталу.

* * *

Адным з самых старэйшых пунктаў дробнабуржуазнай тэорыі ў аграрным пытаньні зьяўляецца сьцьвярджэньне *ўстойлівасьці дробнага вытворства.* Разьбітая марксызмам гэтая тэорыя была рэстаўравана ў нашых савецкіх умовах кандрацьцеўшчынай.

У нас, на Беларусі, гэты пункт кандрацьцеўскай праграмы меў поўнае прызнаньне і ляжаў у аснове палітыкі прышчэпаўшчыны. Так, у прадмове да пэрспэктыўнага пляну разьвіцьця сельскай і лясной гаспадаркі БССР Прышчэпаў пісаў:

„Асноўнымі пытаньнямі зямельнай палітыкі, якія могуць садзейнічаць хутчэйшаму аднаўленьню сельскай гаспадаркі і якія Наркамзем усімі сродкамі імкнецца правесьці ў жыцьцё, зьяўляецца па першае, неабходнасьць стварэньня *ўстойлівага землякарыстаньня*, якое ў нашых умовах мае асабліва важнае значэньне“.

У практычным правядзеньні гэта палітыка зьвялася да ўстанаўленьня мінімальных, максымальных норм землякарыстаньня, фактычна норм, якія спрыялі разьвіцьцю кулацкай гаспадаркі. Прычым трэба адзначыць, што нават максымальная кулацкая норма не распаўсюджвалася прышчэпаўшчынай на буйныя капіталістычныя гаспадаркі, якія будучы залічанымі ў рубрыку „*культурных*“, карысталіся зусім неабмежаванай нормай. Цікава тое, што *беларуская кандрацьцеўшчына, зусім не маскуючыся, заяўляла, што ўвядзеньне норм мае на мэце арганізацыю у вёсцы капіталістычных гаспадарак.* На старонцы 132 пэрспэктыўнага пляну мы чытаем што:

> „устанаўленьне ў Беларусі гранічных норм для асобных двароў сялянскага землякарыстаньня мае мэтаю стварэньне эканамічна-жыцьцёвых (чытай *кулацкіх Г. Б.*) гаспадарак-двароў“.

Маючы такую ўстаноўку, вядома больш пажаданай формай яе рэалізацыі было стварэньне дробна-пасёлкавай і хутарской формы землякарыстаньня. Гэтыя дзьве формы тэарэтычна абгрунтоўваліся кісьлякоўшчынай і шпаркімі тэмпамі праводзіліся ў жыцьцё, былым кіраўніцтвам Наркамзему. У сваіх плянах беларуская кандрацьцеўшчына, праводзячы ў асноўным землеўпарадкаваньне на дробныя пасёлкі, зусім адкрыта прапагандавала і чыста хутарскую форму.

„Што датычыцца хутарской формы землякарыстаньня,—чытаем мы на 137 старонцы пэрспэктыўнага пляну,—якая ўсё яшчэ мае месца у Беларусі, асабліва ў паўночнай і ўсходняй частках, дык неабходна дапускаць яе ў выпадках, калі па тэхнічна-гаспадарчых (?!—*Г.Б.*) меркаваньнях яна няўхільна і ў выпадках настойлівага жаданьня самаго насельніцтва абраць гэту хутарскую форму землякарыстаньня.

Як бачым, зусім выразная ўстаноўка на хутарызацыю БССР, на разьвіцьцё кулацка-капіталістычнай верхавіны вёскі. *Генэральная лінія беларускай кандрацьцеўшчыны—гэта стварэньне буйнога капіталістычнага вытворства на базе бязьлітаснага разбурэньня і закабаленьня беднякоў і сераднякоў.* Маскуючыся размовамі аб ўздыме вытворчых сіл, кандрацьцеўцы зьвязвалі гэты ўздым ня з ростам сацыялістычнага сэктару ў сельскай гаспадарцы, а з разьвіцьцём капіталізму.

Ажыцьцяўляючы сваю праграму беларускай кандрацьцеўшчыне:

> „часта прыходзілася, у мэтах паслабленьня крайняй вострасьці ў зямельным голадзе, колькасьць дзяржзяммаемасьці паступова скарачаць, а некаторыя савецкія гаспадаркі, арганізацыя на землях дзяржзяммаемасьці, або больш-менш зьмяншаць іх зямельную плошчу“ (там-жа, стар. 497).

*І так політыка беларускай кандрацьцеўшчыны ў аграрным пытаньні зводзілася да ўстанаўленьня ўстойлівага кулацкага землякарыстаньня, да ліквідацыі саўгасаў,—гэтых пасьлядоўна сацыялістычных гаспадарак у земляробстве, да барацьбы супроць калектывізацыі пры стаўцы на заможную верхавіну вёскі і за капіталістычны шлях разьвіцьця сельскай гаспадаркі.*

*Кісьлякоў*, на плечы якога прыпала задача тэарытычнага абгрунтаваньня прышчэпаўшчыны, у сваёй прадмове да кніжкі *Плятнера* „Рахунковыя запісы...“ піша:

> „Наша сучаснасьць выразна паставіла перад сельскай гаспадаркай задачу арганізацыйна-вытворчай яе перабудовы ў адпавед-

насьці з новым сацыяльна-эканамічным ідэалам рабоча-сялянскай грамады, сельская гаспадарка зараз у нас прадстаўлена галоўным чынам сялянскімі гаспадаркамі. Ад гэтых апошніх і праз іх прыдзецца ісьці да новых больш рацыянальных форм арганізацыі с.-г. вытворства. Першым этапам *гэтай доўгай дарогі* зьяўляецца *рацыяналізацыя самой сялянскай гаспадаркі, пакольки яна зразу ня ўліваецца ў іншыя формы*".

Апрача блытаніны ў няпісьменнай фразэолёгіі, гэта цытата яскрава гаворыць за тое, што беларускія шкоднікі ўсякімі мерамі імкнуліся падмяніць сацыялістычны шлях разьвіцьця сельскай гаспадаркі—капіталістычным. Рацыянальныя формы сельска-гаспадарчага вытворства яны бачылі ў... самой сялянскай гаспадарцы. Іх ідэалам было разьвіцьцё індывідуальнай гаспадаркі на капіталістычных падставах праз яе рацыяналізацыю.

Дробна-буржуазная теорыя, якая абараняе перавагі дробнай гаспадаркі і магчымасьць яе рацыяналізацыі, у даным выпадку выступае ў якасьці аднаго з тых сродкаў маны і ашуканства мас, якімі заўсёды карыстаецца буржуазія для замацаваньня капіталістычнай сыстэмы. Для нас-жа, стаячых на марксыцка-ленінскіх пазыцыях, ясна тое што:

> *„разьвіцьцё дробнай гаспадаркі ёсьць разьвіцьцё дробна-буржуазнае, ёсьць разьвіцьцё капіталістычнае"* (Ленін).

* * *

У сваёй барацьбе з партыяй і пралетарскай дзяржавай, кандрацьцеўцы салідарызаваліся з трацкізмам і з правым ухілам. Іх стаўка на перамогу апазыцыі выходзіла з таго, што і перамога „левага" трацкізму і перамога правага ўхілу прывяла-б да ажыцьцяўленьня іх праграмы, накіраванай на рэстаўрацыю капіталізму ў СССР. Барацьба трацкізму з партыяй проста і непасрэдна ліла ваду на млын буржуазіі, акрыляючы тым самым яе на актыўную барацьбу за капіталізм. Трацкістыя, ня верыўшыя ў магчымасьць пабудовы сацыялізму, без перамогі пралетарскіх рэвалюцый на Захадзе, прарочылі няўхільную пагібель дыктатуры пралетарыяту, знаходзілі сабе верных саюзьнікаў у кандрацьцеўшчыны, для якіх падобная пастаноўка пытаньня была лёгічна зьвязана з правядзеньнем у жыцьцё іх ідэалаў.

Калі трацкізм пад сурдзінкай „рэвалюцыйных" фраз захоўваў вынікі правядзеньня сваёй праграмы, якія аб'ектыўна вялі да капіталістычнай рэстаўрацыі, калі трацкістыя імкнуліся замаскаваць тое, што іх дзейнасьць была накіравана на падрыў пралетарскай дыктатуры,—буржуазныя эканамістыя, ня чале з Кандрацьцевым, Громанам і Сухановым, а ў БССР група нацыянал-дэмакратаў—гэта бачылі зусім ясна і радаваліся з поваду кожнага кроку трацкісцкай апазыцыі.

Пасьля-ж таго, як быў разьбіты трацкізм, калі рабочая кляса і ўсе працоўныя зразумелі яго контр-рэвалюцыйную сутнасьць, кандрацьцеўцы ўсе свае надзеі пералажылі на правых ўхілістых. Кандрацьеўшчына зразумела, што перамога правых таксама прывядзе, пры ажыцьцяўленьні іх праграмы, да рэстаўрацыі капіталізму.

*У правых і кандрацьцеўцаў знайшоўся цэлы рад агульных эканамічных установак і ў пытаньнях аб тэмпах індустрыялізацыі краіны і ў пытаньнях сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі.* Кандрацьцеўшчына зьяўляецца тэй ідэалёгічнай крыніцай, з

якой правыя чэрпалі сваю палітычную і эканамічную праграму. Правы апартунізм ёсьць агентура кандрацьеўшчыны унутры нашай партыі:

*„Перамога правага ўхілу ў нашай партыі азначала-б вялікае ўзмацненьне капіталістычных элемэнтаў у нашай партыі, азначала-б нарастаньне ўмоў, неабходных для аднаўленьня капіталізму ў нашай краіне"* (Сталін).

Прадстаўнікі правых ў сваёй працы часта проста абапіраліся на кандрацьцеўцаў, клясычным прыкладам гэтага зьяўляецца ў нашых умовах прышчэпаўшчына. Сувязь правых з кандрацьцеўшчынай санкцыянаваньне дзейнасьці кандрацьцеўцаў аб'ектыўна садзейнічала апошнім правядзеньню іх шкодніцкай працы і ўскладняла барацьбу партыі з буржуазнай ідэалёгіяй.

Праваўхілісцкая палітыка прышчэпаўшчыны ў нас у БССР зьяўлялася надзейным грунтам, абапіраючыся на які беларуская кандрацьцеўшчына рэалізавала сваю праграму.

Паўстае пытаньне—сьвядома ці не сьвядома Прышчэпаў і яго блізкія праводзілі сваю шкодную ўстаноўку ў галіне разьвіцьця сельскай гаспадаркі? Сьвядома ці несьвядома прышчэпаўшчына тым самым дапамагала кандрацьцеўшчыне? Адказ на гэтыя запытаньні можа быць адзін. *Прышчэпаўшчына зусім сьвядома дзейнічала руку ў руку з кандрацьцеўшчынай.* Зусім дарэмна некаторыя блізкія па сваёй працы да Прышчэпава сьцьвярджаюць, нібы прышчэпаўшчына абумоўлена адсутнасьцю ясных партыйных дырэктыў. Гэта ёсьць паклёп на партыю. Гэта—нішто іншае, як спроба замазаць свае праваапартуністычныя погляды і справы перакладаньнем віны на другіх.

* * *

Прышчэпаўшчына пачала разгортваць сваю шкодніцкую працу з 1923-24 году. Для таго, каб давесьці ўсю хлусьлівасьць абаронцаў палітыкі *Прышчэпава*, якія ў сваёй аргумэнтацыі ссылаюцца на адсутнасьць ясных указаньняў партыі па пытаньні разьвіцьця сельскай гаспадаркі, трэба прывесьці толькі некалькі вытрымак з партыйных пастаноў.

У сваіх дырэктывах партыя, як і заўсёды, у пэрыяд дзейнічаньня прышчэпаўшчыны давала ясныя і выразныя ўказаньні аб шляхох разьвіцьця вёскі пры дыктатуры пралетарыяту. Так XII зьезд УсеКП(б), які адбыўся ў красавіку 1923 году ў сваіх пастановах запісаў:

„Сельска-гаспадарчыя таварыствы, арцелі і камуны павінны атрымліваць падтрыманьне дзяржаўных органаў, у асаблівасьці паколькі яны зьяўляюцца гаспадарчымі аб'яднаньнямі бяднейшых пластоў сялянства. Пацьвярджаючы ранейшую дырэктыву аб тым, што калектыўныя гаспадаркі ў вёсцы павінны арганізоўвацца пры ўмове поўнай добраахвотнасьці іх членаў, *партыя і савецкая дзяржава павінны садзейнічаць узмацненьню і паляпшэньню гаспадарак с.-г. калектываў, сапраўды культурных і эканамічна-прагрэсыўных гаспадарак"*.

XIII канфэрэнцыя камуністычнай партыі якая сабралася 12 мая 1924 г. у сваёй рэзалюцыі аб працы на вёсцы запісала наступнае:

*„Мы павінны накіраваць усе нашы фінансавыя, агракультурныя, гандлёвыя і гаспадарчыя мерапрыемствы так, каб імі маглі*

*карыстацца ў першую чаргу арганізаванае ці арганізуемае намі на каапэрацыйных пачатках маламоцнае і серадняцкае сялянства. Пры прадастаўленьні ільгот па адзіным грашовым падатку павялічваць ільготу каапэраванаму ў вытворчых адносінах маламоцнаму сялянству, ствараючы тым самым пабудзіцельныя прычыны для арганізацыі вытворчых калектываў. Разам з арганізацыяй сельска-гаспадарчых таварыстваў, неабходна пачаць шырокае каапэраваньне асобных галін сялянскіх маламоцных гаспадарак, напрыклад, па лініі разьвіцьця малочнай справы, мэліарацыі, садоўніцтва і гародніцтва, машынных таварыстваў і г. д., што павінна зьявіцца падрыхтоўчай працай і ступеньню для поўнага аграмаджаньня ў будучым гэтых гаспадарак".*

Хіба гэта ня ясная дырэктыва? Хіба тут ёсьць намёк на разьвіцьцё кулацкай гаспадаркі, якія імкнулася насаджаць прышчэпаўшчына? Хіба можна, выконваючы гэту дырэктыву партыі, зьвярнуць на антыпралетарскі шлях разьвіцьця вёскі? Гэта ёсьць ленінская дырэктыва, накіраваная на ўсямерную дапамогу разьвіцьцю сацыялістычных форм у сельскай гаспадарцы, на ўзмацненьне калгасаў як сапраўдных носьбітаў прагрэсу і культуры ў земляробстве, а не кулакоў і ня „культурных" гаспадарак Марозаў.

Трынаццаты зьезд партыі (май 1924 год) падкрэсьлівае тую-ж самую дырэктыву:

> „У галіне с.-г. каапэрацыі павінна быць зьвернута асаблівая ўвага на разьвіцьцё ўжо складваючыхся форм вытворча-збытавых аб'яднаньняў, на *арганізацыю арцельных і калектыўных відаў сельскай гаспадаркі*, адшукваючы для заахвочваньня ўдзельнікаў гэтых гаспадарак усякага роду прэміі, і ільготы..."

І далей у рэзалюцыі аб працы ў вёсцы чытаем:

> „Толькі каапэраваньне прадуктараў можа вырашыць двухбаковую задачу, што стаіць перад партыяй і савецкай уладай на вёсцы: працягваць дабівацца далейшага максымальна магчымага павялічэньня прадукцыі сельскай гаспадаркі і ў той-жа час разьвіваць усё ў большым разьмеры падтрыманьне маламоцных элемэнтаў вёскі ў мэтах узьняцьця іх гаспадаркі *і абмежаваньня эксплёататарскіх тэндэнцый кулака*. Партыя будзе падтрымліваць і такія прасьцейшыя формы аграмаджанай працы—„працы супольна", як сумесная апрацоўка зямлі або сумесны пакос, альбо хаця-б сумеснае карыстаньне жывёлай у той ці іншай палявой працы, або сумеснае скарыстаньне, або праца ў тым ці іншым прадпрыемстве—млыны ці маслабойні, дапамагаючы агранамічнымі парадамі і вытворча-гаспадарчым крэдытам".

Пасьля гэтай яснай дырэктывы паўстае пытаньне, каго-ж падтрымлівала ў той час прышчэпаўшчына? Яна замест таго, каб праводзіць у жыцьцё пастановы партыі і падтрымліваць сацыялістычныя формы ў сельскай гаспадарцы, ліквідавала калгасы і саўгасы на карысьць разьвіцьця кулацкай гаспадаркі.

Як бачым, партыя давала ясную ўстаноўку і па пытаньні калгаснага будаўніцтва і па пытаньні зямляўпарадкаваньня. Але прышчэпаўшчына рабіла адваротнае. Яна дапамагала і накіроўвала сваю ўвагу на арганізацыю дробных пасёлкаў і хутароў, гэтай мэце служыла ў іх

руках і зямляўпарадкаваньне. У гэты-ж самы час выпрацоўваліся, тэарытычна абгрунтоўваліся і праводзіліся ў жыцьцё славутыя кулацкія нормы. Усё гэта рабілася, мінаючы дырэктывы партыі.

У сьнежні 1925 г. зьбіраецца XIV зьезд партыі і ў сваіх пастановах канстатуе, што:

„с.-г. каапэрацыя і па сваёй гаспадарчай працы, і з пункту погляду ўцягненьня мас, і пункту погляду правільнага сацыялістычнага кіраўніцтва, яшчэ далёка ад выкананьня сваёй вялікай ролі. Зьезд ставіць у абавязак усім членам партыі самым уважлівым чынам сачыць за разьвіцьцём сельска-гаспадарчай каапэрацыі і прымаць усе меры, забясьпечваючыя яе правільны рост“.

X зьезд КП(б)Б (студзень 1927 г.) таксама лішні раз падкрэсьліў той напрамак па якім павінна разьвівацца беларуская вёска. У сваёй рэзалюцыі па справаздачы ЦК КП(б)Б зьезд запісаў наступнае:

*„У адносінах сялянскай гаспадаркі працягваць палітыку, накіраваную на разьвіцьцё тэхнічных культур, мэханізацыю сельскай гаспадаркі, разьвіцьцё калгаснага будаўніцтва; непаслабна неабходна весьці працу па зямляўпарадкаваньні, мэліарацыі, працягваючы эканамічную дапамогу беднаце, паставіўшы ў цэнтры гэтай працы каапэраваньне бедната і эканамічную ўзаемадапамогу... Замацаваньне і пашырэньне сацыялістычных элемэнтаў у эканоміцы (асабліва далейшае ўзмацненьне прамысловасьці і сельска-гаспадарчай каапэрацыі), як і да гэтага часу, павінна стаяць ва главе ўгла ўсёй гаспадарчай працы ў БССР“.*

Для таго, каб стварыць спрыяючыя ўмовы для разьвіцьця эканамічнай і палітычнай працы сярод беднаты вёскі, для таго, каб весьці барацьбу з кулаком і праз каапэрацыю бядняцка-серадняцкія масы маглі хутчэй расправіцца з жабрацтвам, XV партканфэрэнцыя яшчэ раз падкрэсьлівае той шлях, па якім павінна разьвівацца вёска.

„Трымаючы ў далейшым,—чытаем у пастановах,—няўхільны курс на разьвіцьцё вытворчых сіл сельскай гаспадаркі, якая забясьпечвае хутчэйшае разьвіцьцё прамысловасьці і ўсёй народнай гаспадаркі, неабходна ў практычнай працы ў адносінах сялянства працягваць палітыку, накіраваную на разьвіцьцё тэхнічных культур і жывёлагадоўлі, мэханізацыю і інтэнсіфікацыю сельскай гаспадаркі, разьвіцьцё галін прамысловасьці перааапрацоўваючых с. г. прадукты, разьвіцьцё *саўгаснага і калгаснага* будаўніцтва. Разьвіцьцё каапэрацыі па-ранейшаму астаецца асноўнай задачай партыі ў вёсцы“...

IX зьезд Камуністычнай Партыі Беларусі ў сваёй рэзалюцыі па гаспадарчым будаўніцтве, у разьдзеле галоўнейшых задач партыі, высоўвае наступнае:

*„Уцягненьне сялянства ў сацыялістычнае будаўніцтва пры дапамозе шырокага каапэраваньня яго на базе растучай індустрыялізацыі краіны, гаспадарчага ўзмацненьня серадняцкіх і бядняцкіх пластоў сялянства і шырокага культурнага ўздыму ў краіне пры забясьпечаньні кіруючай ролі пралетарыяту ва ўсім гэтым працэсе“.*

Гэта дырэктыва дана была ў канцы 1926 і пачатку 27 году, калі Прышчэпавым, пры дапамозе Кісьляковых, адшукваліся шляхі „арга-

нізацыйна-тэхнічнай рацыяналізацыі сялянскай гаспадаркі". І тут паўстае пытаньне. Ці патрэбна было траціць сродкі на наладжаньне для Кісьляковых „навуковых" экспэдыцый для адшуканьня новых форм разьвіцьця гаспадарак бядняцка-серадняцкага сялянства? Адказ можа быць толькі адмоўны. Бо шлях перабудовы вёскі быў ясна вызначаны партыяй і яе марксыцка-ленінскім штабам.

XI зьезд (1927 г.) Камуністычнай Партыі Беларусі, разглядаючы асновы пяцігадовага пляну разьвіцьця народнай гаспадаркі БССР, даў ясную і выразную ўстаноўку аб шляхох, па якіх павінна пайсьці бядняцка-серадняцкае сялянства беларускай вёскі. У рэзалюцыі па гэтым пытаньні XI зьезд КП(б)Б запісаў, што:

> „*Узмацненьне аграмаджаных элемэнтаў у сельскай гаспадарцы і на далейшы час застаецца аднэй з важнейшых задач.*
>
> Сельска-гаспадарчыя камуны, калектыўныя гаспадаркі і арцелі да гэтага часу ў сваім разьвіцьці не заўсёды мелі поўную дапамогу з боку дзяржаўных і грамадзкіх арганізацый, у той час, як гэтыя аграмаджаныя с.-г. ячэйкі зьяўляюцца аднэй з важнейшых арганізацый, дапамагаючых аграмаджаньню с.-г. вытворчасьці. Таму пяцігадовы плян павінен прадугледзець усямернае садзейнічаньне да ўзмацненьня калектываў, с.-г. арцеляй, камун і г. д.".

У сваіх пастановах XV зьезд (сьнежань 1927 г.) даў выключны па глыбіні аналіз сацыяльна-эканамічнага становішча вёскі і шляхоў яе разьвіцьця пры дыктатуры пралетарыяту і ўказаў лішні раз выразную пэрспэктыву далейшага ўздыму і сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі. У разьдзеле чарговых задач партыі мы чытаем:

> „*... абавязаць усе партыйныя арганізацыі і партыйных працаўнікоў савецкіх і каапэрацыйных органаў узмацніць дапамогу справе калгаснага будаўніцтва і ўзмацніць саўгасы, пераўтвараючы іх на справе ва ўзорныя буйныя гаспадаркі сацыялістычнага тыпу*".

XII зьезд КП(б)Б у пачатку 1929 г., у рэзалюцыі па справаздачным дакладзе ЦК:

> „з усёй рашучасьцю падкрэсьлівае, што толькі калектывізацыя і сацыялістычная рэканструкцыя зьяўляюцца рашаючым і асноўным шляхам магутнага ўздыму сельскай гаспадаркі. Таму неабходна з усёй сілай і энэргіяй праводзіць работу па ўзмацненьні і ўзбуйненьні існуючых калгасаў і саўгасаў і ў далейшым значна ўзмацніць тэмп па калектывізацыі сельскай гаспадаркі і будаўніцтва саўгасаў, зварачаючы асаблівую ўвагу на стварэньне буйных калгасаў".

Намі прыведзены галоўнейшыя дырэктывы партыі, апрача пастаноў гэтага году аб сацыялістычным пераўтварэньні вёскі, вынесеныя ў апошнія часы. Гэтыя пастановы давалі і даюць ясную ўстаноўку ў галіне аграрнай палітыкі, і яны зьяўляюцца нічым іншым, як разьвіцьцём і правядзеньнем у жыцьцё таго пункту праграмы партыі, які выразна вызначае шлях пераходу вёскі да камуністычнай грамады.

*Прыведзеныя вытрымкі з партыйных дырэктыў разьбіваюць ушчэнт праваапартуністычныя сьцьвярджэньні аб адсутнасьці ясных указаньняў у пытаньнях разьвіцьця вытворчых сіл сельскай гаспадаркі і яе рэканструкцыі на сацыялістычных падставах.*

Наша партыя вяла, вядзе і будзе весьці, пад кіраўніцтвам ленінскага ЦК, непрымірымую, бязьлітасную барацьбу з усімі буржуазнымі а дробнабуржуазнымі ідэалёгіямі, выкрываючы іх сапраўдны клясавы сэнс, як-бы яны не маскаваліся. Абараняючы чыстату артадаксальнага марксызму, партыя давала суровы адпор усялякім спробам права і „лева“ апартуністычным скажэньням ленінскіх прынцыпаў з боку розных элемэнтаў як унутры партыі, так і па за партыяй.

Бязьлітаснасьць, няпрымірымасьць да ўсякага адступленьня і скажэньня рэвалюцыйнага марксызму, барацьба супроць усякіх буржуазных і дробна-буржуазных партый, „тэорый“, барацьба за сапраўдную пралетарскую клясавую ідэолёгію—вось лінія бальшавіцкай партыі, вось той шлях, па якім яна вядзе краіну дыктатуры пралетарыяту да канчатковай перамогі сацыялізму.

**Г. Бондар.**



Галоўны будынак Асінбуду.

# ПАДРЫХТАВАЦЦА
## ДА ПЕРАВЫБАРАЎ САВЕТАЎ

Важнейшая масавая палітычная кампанія—перавыбары саветаў у гэтым годзе будзе праводзіцца ў асаблівых умовах, умовах разгорнутага наступленьня сацыялізму па ўсім фронце.

Унутры краіны мы маем нячуваны рост і дасягненьні сацыялістычнага будаўніцтва. Пасьпяхова выконваецца пяцігадовы плян разьвіцьця народнай гаспадаркі. Мы маем ня толькі бязупыннае выкананьне пляну, але і значнае перавыкананьне яго ў паасобных галінах будаўніцтва. Вызначаныя па пляну вялікія тэмпы будаўніцтва, **дзякуючы правільнаму кіраўніцтву камуністычнай партыі і энтузіязму рабочае клясы**, у працэсе работы падняты на яшчэ большую вышыню, і ў дальнейшым нарастаюць усё больш і больш. Мы маем, ужо амаль як агульнае зьявішча—**сустрэчныя** прамфінпляны. Зноў узьнімаецца хваля сярод асноўнай масы сялянства **за калектывізацыю** сельскай гаспадаркі. Усё больш і больш павялічваецца сьвядомасьць і палітычная актыўнасьць рабочае клясы. Разгорнутае сацыялістычнае будаўніцтва ўжо амаль цалкам зьліквідавала беспрацоўе, выхоўваюцца новыя кадры прамысловых рабочых і г. д. і г. д.

Посьпехі Саюзу ССР на ўсіх фронтах сацыялістычнага будаўніцтва выклікаюць шалёнае супраціўленьне з боку ўсіх клясавых ворагаў савецкай улады. Капіталістычныя дзяржавы **знаходзяцца ў пэрыядзе ўпадку,** яны перажываюць эканамічны крызіс і маюць у сябе ўздым рэвалюцыйнага руху. Таму капіталістычныя дзяржавы шукаюць выхаду з гэтага становішча ў вайне з Саюзам ССР. У апошнія два гады з іх боку ўжываліся ўсе спробы ўцягнуць Савецкі Саюз у вайну, але СССР, цьвёрда ажыцьцяўляючы палітыку міра, на ўсе іх правакацыі адказваў і адказвае яшчэ больш напружанай працай па будаўніцтву сацыялізму.

Перавыбары саветаў будуць праходзіць ва ўмовах **абвостранай клясавай барацьбы**, калі капіталістычныя элемэнты, у асаблівасьці кулацтва, якое аказвае ўпартае супраціўленьне сацыялістычнаму наступу па ўсім фронце, будзе імкнуцца перашкаджаць, зрываць перавыбары, прабрацца ў саветы і дэзарганізаваць іх работу. Праведзеныя КП(б)Б палітыка абмежаваньня і выціску кулацтва, палітыка ліквідацыі кулацтва як клясы на базе суцэльнай калектывізацыі, якую праводзіць партыя, падарвала эканамічнаю моц кулака, аднак, кулак у гэтую выбарчую кампанію ўсямерна **спрабуе скарыстаць слабасьці** на мясцох, ён будзе распаўсюджваць хлусьлівыя выдумкі, весьці варожую агітацыю супроць калгасаў, кулак ня спыніцца перад падпаламі, шкодніцтвам і забойствам паасобных актывістых работнікаў. Гэта трэба мець на ўвазе.

Вось тыя агульныя абставіны, у якіх будзе праводзіцца чарговая кампанія перавыбараў саветаў. Усе гэтыя акалічнасьці ўнутранага і міжнароднага становішча павінны быць цалкам улічаны ў надыходзячую перавыбарчую кампанію. Працоўнае насельніцтва павінна быць добра азнаёмлена з нашым унутраным і міжнародным становішчам. Яно павінна ведаць аб усіх дасягненьнях сацыялістычнага будаўніцтва, аб усіх цяжкасьцях нашага росту і будаўніцтва. Арганізацыйна-масавая работа вакол справаздачна-перавыбарчай кампаніі павінна яшчэ раз паказаць **поўны правал** усіх права-апартуністычных элемэнтаў. Трэба **даць рашучы адпор** усякім спробам правых апартуністых і іх

саюзьнікам „зьлева“ спэкуляваць на нашых часовых цяжкасьцях гіганцкага будаўніцтва. Трэба не забываць, што перавыбары будуць праходзіць у момант ажыцьцяўленьня **ўдарнага** кварталу перад трэцім рашаючым годам пяцігодкі. У гэтым ударным квартале прамысловасьць павінна даць звыш 40 проц. росту. Аб усім гэтым трэба па-бальшавіцку расказаць на справаздачных сходах выбаршчыкаў гораду і вёскі з тым, каб **мабілізаваць шырачэзныя масы працоўных** на барацьбу і перамогу цяжкасьцяй сацыялістычнага росту.

Аднэй з важных задач перавыбараў зьяўляецца арганізаванасьць і згуртаванасьць вакол перавыбараў рабочых мас і ўсіх працоўных. Перавыбарчая кампанія адрозьніваецца ад іншых кампаній тым, што яна пагалоўна ахапляе ўсю масу працоўных. Тую актыўнасьць працоўных, якая выяўляецца ў часы перавыбараў, трэба скарыстаць усім органам савецкае ўлады, усім установам і арганізацыям, на пэўных вучастках савецкай работы, гаспадарча-каапэрацыйнага і сацыяльна-культурнага будаўніцтва.

У мінулую перавыбарчую кампанію мы мелі наступную актыўнасьць працоўных на перавыбарах саветаў: у сельскіх мясцовасьцях яўка складала 58,8 проц., у гарадох 69,2 проц. Зразумела, што такая яўка выбаршчыкаў зараз, на гэтым этапе будаўніцтва, будзе нездавальняючай. Мы павінны ведаць, што посьпехі сацыялістычнага будаўніцтва забясьпечваюцца ўцягненьнем у гэтае будаўніцтва самых шырокіх працоўных мас. Таму павінна быць зараз-жа зьвернута ўвага ўсіх партыйных, савецкіх і грамадзкіх установаў і арганізацый і прыняты сваячасова меры, якія павінны **забясьпечыць удзел у кампаніі ўсіх выбаршчыкаў**, а таксама ўсіх савецкіх установаў і грамадзкіх арганізацый.

Паміж саветамі і раённымі выканаўчымі камітэтамі павінна быць наладжана пераклічка і заключаны дагаворы на сацыялістычнае спаборніцтва на лепшую арганізацыю і правядзеньне выбараў у саветы. Мэтады падрыхтоўкі да перавыбараў шляхам сацспаборніцтва павінны быць ужыты і на прадпрыемствах і праводзіцца пад знакам выкананьня і перавыкананьня прамфінпляну, палепшаньня вытворчасьці, умацаваньня вытворчай дысцыпліны, барацьбы з прагуламі, барацьбы за палепшаньне якасьці прадукцыі і зьніжэньне сабекошту. Такія мэтады апроч добрых вынікаў у справе перавыбараў саветаў дадуць значны вытворчы эфэкт.

Саветы і выканаўчыя камітэты павінны будуць даць працоўным справаздачы аб тым, як яны выконвалі і выконваюць заданьні партыі і савецкай улады ў розных галінах сацбудаўніцтва, палепшаньня народнай гаспадаркі і культуры, як яны выканалі наказы сваіх выбаршчыкаў. Пры дапамозе працоўных мас, на падставе бальшавіцкай крытыкі і самакрытыкі, неабходна выявіць усе недахопы і перагібы ў працы і рашуча выправіць усе памылкі ў рабоце саветаў. Справаздачная кампанія павінна **выявіць** усе саветы, савецкія органы і ўстановы, якія ня могуць забясьпечыць пасьпяховае правядзеньне дырэктыў партыі і ўраду ў справе сацыялістычнага будаўніцтва і ўзмацніць **іх склад лепшымі рабочымі, батракамі, калгасьнікамі, беднякамі серадняками,**—актыўна праводзячых палітыку камуністычнай партыі і савецкай улады.

Сваячасовая падрыхтоўка і абгаварэньне на рабочых сходах, на сходах батрацтва і беднаты кандыдатур у саветы павінна заняць асобнае месца ў падрыхтоўцы да выбараў. Якаснае палепшаньне апарату неабходна шчыльна зьвязаць з пытаньнем барацьбы з бюракратызмам,

са шкодніцтвам, з сапраўдным вырашэньнем шматлікіх гаспадарчых пытаньняў. У выніку апошніх выбараў у гарадзкія саветы было абрана 42,5 проц. рабочых, у сельскія саветы было абрана батракоў і с. г. рабочых—2,8 проц. і сялян, якія былі вызвалены ад с. г. падатку—38,2 проц. Надыходзячыя перавыбары саветаў павінны забясьпечыць у складзе гарсаветаў больш паловы рабочых з вытворчасьці і значна павялічыць рабочую праслойку ў сельскіх саветах. Шляхам перавыбараў мы павінны дабіцца **рашучага ўзмацненьня** нізавых органаў дыктатуры пралетарыяту—сельсаветаў, бо бяз гэтага немажліва далейшая пасьпяховая праца на вёсцы. Ажыцьцяўленьне лёзунгу ліквідаваць кулацтва як клясу на базе суцэльнай калектывізацыі патрабуе ад работнікаў сельсаветаў **клясавай вытрыманасьці, палітычнай сьвядомасьці і бальшавіцкай актыўнасьці.**

На мясцох неабходна **праверыць у часе перавыбараў справу ўзмацненьня раёнаў былымі акруговымі работнікамі.** Зараз раён зьяўляецца тым месцам, дзе канкрэтна вырашаюцца амаль усе вузлавыя пытаньні сацыялістычнага будаўніцтва на вёсцы. Вялікія задачы, што стаяць зараз перад раёнамі, патрабуюць умацаваньня раёнаў моцнымі кваліфікаванымі работнікамі і спэцыялістымі. Дырэктывы партыі і ўраду аб умацаваньні раёнаў кваліфікаванымі кадрамі, па тых зьвестках, якія маюцца на сёнешні дзень, у многіх мясцох **выкананы нездавальняюча.** Гэта ставіць пад пагрозу пасьпяховае далейшае вырашэньне на мясцох пытаньняў сацыялістычнага будаўніцтва. Таму неабходна **праверыць прычыны** нездавальняючага выкананьня дырэктыў і **замацаваць раёны належнымі кадрамі.**

У сельскіх мясцовасьцях саўгасы і калгасы павінны стаць палітычнымі штабамі па садзейнічаньні выбарам сельскіх саветаў і ўмацаваньні пралетарскага ўплыву на сялянства, умацаваньні саюзу батрацтва і беднаты з серадняком супроць кулацтва. Сельскія саветы ў часе перавыбараў павінны будуць даць сваім выбаршчыкам справаздачы аб тым, **як яны сталі на чале новага прыліву працоўнага сялянства ў калгасы.** Гэта галіна працы саветаў павінна быць праверана да часу перавыбараў рабочымі брыгадамі, батрацтвамі, беднатой і савецкай грамадзкасьцю. Справаздачная кампанія ў гарадох павінна мабілізаваць рабочую клясу на барацьбу за рашучую перабудову работы гарадзкіх саветаў з тым, каб гарсаветы сапраўды сталі **на чале выкананьня прамфінплану, на чале справы палепшаньня рабочага забясьпечаньня,** каб яны рашуча наладзілі арганізацыю прыгарадных гаспадарак, палепшылі-б грамадзкае харчаваньне, жыльлёвае будаўніцтва, забясьпечылі б ліквідацыю няпісьменнасьці і ажыцьцяўленьне ўсеагульнага навучаньня і г. д.

Як частка падрыхтоўкі да перавыбараў саветаў у гарадох, а таксама і ў вёсцы павінен быць наладжан **збор рабочых прапаноў,** арганізаваны спэцыяльныя рабочыя групы па праверцы **выкананьня і распрацоўцы новых наказаў саветам,** як важнейшай справы ў перавыбарах. Пры арганізацыі перавыбараў саветаў неабходна ўлічыць усе тыя недахопы і прарывы, якія былі адзначаны ў мінулую перавыбарчую кампанію. Сюды трэба аднесьці няўважлівыя адносіны да ўтварэньня выбарчых камісій і да ўкамплектаваньня іх лепшымі рабочымі, батракамі, калгасьнікамі, беднякамі і серадняками, што ў свою чаргу выклікала прымірэнцкія адносіны да кулакоў і іх падсобнікаў. Не заўсёды ўважліва адносіліся на мясцох да справы складаньня сьпісаў асоб, пазбаўленых выбарчага права. У сьпісы пазбаўленых

іншы раз пападаў серадняк, замест кулака, а падкулачнікі, як гэта наглядалася ў некаторых мясцох, пападалі ў выбарчыя камісіі. Раённыя выканаўчыя камітэты слаба кіравалі перавыбарамі саветаў. Работа сярод батрацтва і беднаты была пастаўлена нездавальняюча. Прафэсыянальныя і грамадзкія арганізацыі прымалі ў перавыбарах саветаў недастатковы ўдзел. Цэнтральныя органы грамадзкіх арганізацый і савецкіх устаноў абмяжоўваліся папяровым кіраўніцтвам і пасылкай дырэктыў мясцом і гэтым лічылі справу свайго ўдзелу ў выбарах у саветы вычарпанай. Праца перавыбараў часта не ўвязвалася з праводзеньнем агульных палітычна гаспадарчых задач. Усе гэтыя недахопы мінулага трэба загадзя ўлічыць і не дапушчаць іх у гэтую выбарчаю кампанію. На гэты раз пры перавыбарах саветаў, справаздачная кампанія паасобна не выдзяляецца і праводзіцца адначасова. Аднак, гэта ні ў якім разе не азначае, што справаздачнасьці павінна ўдзяляцца менш увагі, чым гэта было раней. Наадварот, ва ўстаноўленых тэрмінах у каляндарным пляне перавыбараў **справаздачнасьць павінна заняць асноўнае месца.**

Справаздачна-перавыбарчая кампанія ёсьць самая шырокая мабілізацыя рабочае клясы і працоўнага сялянства на актыўны ўдзел у сацыялістычным будаўніцтве, на актыўнае кіраўніцтва пралетарскай дзяржавы. **Перавыбары саветаў ёсьць самая грунтоўная і ўсебаковая праверка работы кожнага органу савецкай улады, кожнай установы і арганізацыі, іх удзел ў сацыялістычным будаўніцтве.** Гэтая кампанія павінна яшчэ больш падштурхнуць масы да разгортваньня сацыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва на пасьпяховае выкананьне тых вялізарнейшых задач, якія зараз стаяць перад краінай саветаў.

Памятаючы аб ваеннай пагрозе і небясьпецы з боку капіталістычнага сьвету, трэба ў часе перавыбараў саветаў асаблівую ўвагу зьвярнуць на тое, як саветы і выканаўчыя камітэты ўмацоўваюць абараназдольнасьць Савецкага Саюзу, як яны клапацяцца аб яго верным вартаўніку—Чырвонай арміі. У выніку справаздачна-перавыбарчай кампаніі павінна быць **яшчэ больш узмоцнена ўвага** працоўных нашай краіны да абароны. **Яшчэ больш узмоцнена пралетарская сувязь паміж рабочымі і сялянскімі масамі з Чырвонай арміяй.**

Для таго, каб перавыбары саветаў спрыялі далейшым посьпехам пабудовы сацыялізму **неабходна ўцягнуць у падрыхтоўку і праводзеньне выбараў саветаў усю масу працоўных.** Неабходна дабіцца поўнай згуртаванасьці і арганізаванасьці рабочых, батрацтва, беднаты і калгасьнікаў, весьці за сабой серадняка-аднаасобніка на барацьбу з кулаком пры перавыбарах сельсаветаў. Максымум увагі трэба ўдзяліць арганізацыі калгасьнікаў, батрацтва і беднаты і падрыхтоўцы да перавыбараў працоўных жанчын. Падрыхтоўка і ўцягненьне працоўных нацмен у выбарчую кампанію мае вялізарнае палітычнае значэньне. **Пытаньні нацыянальнай палітыкі, беларусізацыі, абслугоўваньня нацмен і г. д. з пункту гледжаньня рашэньняў апошняга пленуму ЦК КП(б) Б павінны быць пры перавыбарах шырока растлумачаны. Трэба шырока папулярызаваць вялізарныя дасягненьні** у гэтай галіне сацыялістычнага будаўніцтва.

Зразумела, уся выбарчая кампанія павінна праходзіць пад знакам барацьбы за генэральную лінію партыі, супроць правых і „левых“ апартуністаў і прымірэнцтва да іх. Супроць вяліка-дзяржаўнага расійскага шовінізму, беларускага нацыянал-дэмакратызму і іншых шовінізмаў.

Кампаніі перавыбараў саветаў партыйныя арганізацыі павінны зьвярнуць вялізарнейшую ўвагу, усямерна павысіць арганізацыю актыўнасьці мас і ўзмацніць сваё кіраўніцтва.

Кароткі тэрмін, які застаўся да перавыбараў саветаў, патрабуе ад усіх партыйных, савецкіх і грамадзкіх арганізацый самай напружанай падрыхтоўчай працы.

А. Хацкевіч.

# СЕЛЬСКІЯ САВЕТЫ І ЗАДАЧЫ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫ

## I

„Калі мы будзем сядзець па старому ў дробных гаспадарках, хаця і вольныя грамадзяне на вольнай зямлі, нам усё роўна пагражае немінучая пагібель“.

*(Ленін, том XIV, ч. I, стар. 169)*

Адбываючыйся вялізарны зрух у вёсцы ў бок павароту асноўных мас сялянства да сацыялізму, ліквідацыі кулацтва, як клясы на базе суцэльнай калектывізацыі—вымагае ад сельскіх саветаў штодзеннай, няўтомнай працы ў напрамку, як аўладаньня кіраўніцтвам, так і непасрэднага ўдзелу ва ўсіх працэсах сацыялістычнай перабудовы вёскі. Ажыцьцяўляючы мерапрыемствы ўлады ў выкананьні пяцігодкі ў чатыры гады, пераважная частка гэтай працы на вёсцы прыпадае на правядзеньне калектывізацыі. Вось чаму роля саветаў у гэтай галіне адрозьніваецца ад ролі саветаў адбудоўчага пэрыоду і набывае выключна важнае палітычнае значэньне.

Вопыт працы мінулых гадоў паказаў, што там, дзе саветы сапраўды зьяўляліся падрыхтаванымі да гэтай працы—праводзілі яе на падставе яскравых дырэктыў партыі, там было менш перагібаў і пакрыўленьняў у адносінах да серадняка. Досыць часта ў працы саветаў асабліва ў пачатку 1930 году, у вялікай колькасьці ўжываліся спробы з боку розных упаўнаважаных замяніць сельсавет, адсунуць яго ў вачох насельніцтва ад практычнага ўдзелу ў правадзімай працы. Такія адносіны да работы сельсаветаў зьніжалі аўтарытэт ня толькі сельсавету і яго працаўніцтва, але і Савецкай Улады. — Падмяніўшы тэарытычна слаба падрыхаваны калектыў сельскага савету, упаўнаважаныя выпраўляючы памылкі сельсаветаў у аднэй галіне, ня ведаючы быту і ўмоў гэтага савету — самі рабілі шмат памылак, пакрыўленьняў у другім напрамку. Апіраючыся ў сваёй дзейнасьці на нявывучаны і выпадкова навярбованы актыў вёскі, упаўнаважаныя, зачастую, замест апоры на беднату, апіраліся на—прыбраўшыхся перад яўкаю да упаўнаважанага ў бядняцкую вопратку заможныя элементы. Прыкладам такога зьявішча можа служыць Паўлаўскі сельсавет, Круглянскага раёну, дзе прыехаўшая ў лютым месяцы рабочая брыгада для дапамогі ў правядзеньні калектывізацыі ў ліку чатырох асоб, выбрала ня толькі ў дапамогу, але і прыпынілася на кватэры былога валаснога старшыні, ня здаўшага яшчэ справы старшыні і царкоўнага савету кулака Панарадава Базыля, вылучыўшы яго прыемшчыкам абагульняемага насеньня.

Папярэднія ўпаўнаважаныя,—падмяніўшы сельсавет, ня прыслухоўваючыся да яго заўваг,—гэтага кулака, меўшага поўны камплект складаных сельска-гаспадарчых машын, прынялі ў калгас і, нават яго ўвялі па актыўнасьці і надворнаму бядняцкаму выгляду ў склад праўленьня калгасу „Сонца“.

Канечна, у працягу яшчэ доўгага часу нам прыдзецца практыкаваць пасылку працаўнікоў з цэнтру на дапамогу ў раёны і нельга не адзначыць, што рабочыя брыгады ў 1929-30 гаспадарчым годзе прарабілі шмат каштоўнай працы ў галіне калектывізацыі, арабачэньне нашых саветаў і рабочага ўплыву як на працу некаторых саветаў, так і на ўзмацаваньне сувязі гораду з вёскаю. Аднак, нельга захоўваць і тых па колькасьці невялікіх адмоўных момантаў, якія, на жаль, мелі месца ў працы па калектывізацыі з боку некаторай часткі брыгад. Неабходна ўскрыць слабыя месцы для таго, каб у далейшым іх не паўтараць.

Вось, што кажа т. Ленін у адносінах зразуменьня і выпрамленьня слабасьцяй: „Усе рэвалюцыйныя партыі, якія дагэтуль гінулі—гінулі ад таго, што занасіліся і ня ўмелі бачыць, у чым сіла, баяліся гаварыць пра свае слабасьці і не навучыліся перамагаць. А мы не загінем, бо не баімся гаварыць пра свае слабасьці і навучымся перамагаць слабасьці (Ленін, т. XVI ч. II, стар. 59).

Праводзячы працу ў галіне калектывізацыі саветам неабходна цьвёрда памятаць, што варожыя элемэнты гораду і вёскі, бачачы сваю гібель, сустракаюць і будуць сустракаць атакаю мерапрысмствы ўлады, накіраваныя на соцыялістычную перабудову вёскі. Есьць некаторая частка працаўнікоў у саветах, якія разбройваюць савецкі актыў,—кажучы, што „кулака няма, ён раскулачаны і высланы“.

У дакладзе Прэзыдыуму ЦВК БССР 25 жніўня старшыня Калінкавіцкага раёну заявіў, што ў гэтым годзе ў іх раёне „няма ніводнага кулака“. Між тым, процант колектывізаваных гаспадарак у гэтым раёне, толькі 13 проц. Такія разважаньні супярэчаць пастановам XVI зьезду партыі, дзе адзначана: „*кулак яшчэ не дабіты і будзе аказваць шалёнае супраціўленьне прасоўваньню калектывізацыі*“.

Выпраўленьне меўшыхся перагібаў у адносінах да серадняка, як саюзьніка рабочае клясы — у працы саветаў павінна займаць значнае месца. Увага серадняку і прыяцельскія адносіны з ім—гэта адна справа. Зусім другая справа—кулак. З ім не павінна быць, ні супрацоўя, ні міру. Гістарычная роля кулацтва, ва ўсе пэрыоды гаспадарчых узаемаадносін, была накіравана на прыгнечаньне і поўнае закабаленьне бядняцкай часткі вёскі. Кулак распухаў ад тлушчу ў той час, калі бедната пухла ад голаду, ня трэба забываць таго, што казаў пра кулакоў т. Ленін: „Кулакі самыя зьверскія, самыя грубыя, самыя дзікія эксплёататары, якія ня раз аднаўлялі ў гісторыі і іншых краёў уладу памешчыкаў, цароў, папоў, капіталістых. Кулакоў больш, чым памешчыкаў і капіталістых. Але ўсё-ж кулакі—меншасьць у народзе... Гэтыя крывапіўцы нажыліся на народнай галечы ў часе вайны, яны скапілі тысячы і сотні тысяч грошай, павышаючы цэны на хлеб, ды іншыя прадукты. Гэтыя павукі тлусьцелі за кошт зруйнаваных вайною сялян, за кошт галодных рабочых. Гэтыя п'яўкі пілі кроў працоўных, багацеючы тым больш, чым больш галадаў рабочы ў гарадох на фабрыках. Гэтыя вампіры падбіралі і падбіраюць сабе ў рукі памешчыцкія землі, яны зноў кабаляць бедных сялян“ (том XX, частка II-я, стар. 257)“.

Вось чаму барацьба з кулацтвам, яго агентурай патрабуе тэорэтычнага ўзброеньня работнікаў саветаў і гэтая праца ня можа быць выканана ў адзін прысест. Не эвакуацыя кулацтва, як тлумачаць некаторыя ў раёнах, а поўная іх ліквідацыя, як клясы павінна няўпынна, пры правядзеньні суцэльнай калектывізацыі праводзіцца ў жыцьцё. Саветы павінны ведаць, што калектывізацыя ў раёнах і практычная праграма па сацыялістычнаму будаўніцтву ў сельскай гаспадарцы павінна ісьці такім тэмпам, каб да канца 5-ці годкі гэта работа была праведзена, ахапіўшы 0,9 пасеўнай плошчы калгасамі.

*„К канцу пяцігодкі калектывізацыя СССР павінна быць у асноўным закончана і пасеўныя плошчы калгасаў да гэтага тэрміну павінны пакрыць 0,9 усёй засеўнай тэрыторыі СССР апрацоўваемай у сучасны момант паасобнымі гаспадаркамі“* (Сталін, палітсправаздача ЦК XVI зьезду партыі).

Сельскім саветам, прыступаючы да практычнай працы па правядзеньню калектывізацыі, патрэбна праводзіць пад кутком погляду ўзмацаваньня існуючых калгасаў, асабліва ў час разьмеркаваньня ураджаю, заробку за межамі калгасаў, удзельнічаць дапамогаю, не падмяняючы праўленьнаў у арганізацыі працы на зімовы пэрыяд.

Дапамагаючы ў разьмеркаваньні рабочай сілы калгасьнікам у восеньня-зімовы пэрыяд трэба ўлічыць неабходную падрыхтоўку для вучобы па ўзьняцьцю кваліфікацыі, асабліва моладзі і жанчын з мэтаю забясьпячэньня пасьпяховага ўздыму жывёлагадоўлі і поўнае нагрузкі рабочага дню, як працаю ў межах калгасаў, так і па-за калгасам (вывазкі, нарыхтоўкі будаўнічага матар'ялу, адходныя заробкі і г.д.). На глебе заробкаў замежамі калгасаў пры скарыстаньні жывога і мёртвага інвэнтару калгасьнікаў магчыма будуць спробы варожых элемэнтаў наогул і няўстойлівых калгасьнікаў перашкодзіць далейшаму ўмацаваньню калгасаў.

Работнікам саветаў, да якіх будуць зварочвацца вярбоўшчыкі рабочай сілы і гаспадарчыя арганізацыі, разьмяркоўваючы нарады трэба добра ўлічыць магчымасьці калгасаў не забываючы і аднаасобных бядняцкіх і серадняцкіх гаспадарак.

Карысна па справе калектывізацыі вёскі саветам пачаць праводзіць работу з батрацка-бядняцкім актывам у тых вёсках і паселішчах, дзе па розных прычынах разваліліся калгасы, дзе ўсё-ж ткі захавалася здаровае калгаснае ядро, хаця можа і ня ў значнай колькасьці, вакол каторага можна групаваць асноўныя масы сялянства і праводзіць гаспадарчыя кампаніі—арганізоўваць калгасы. Арганізацыя новых калгасаў і павялічэньне існуючых за лік бядняцка-серадняцкіх гаспадарак не павінна ўносіць адміністрацыйнага нажыму асабліва ў сучасны момант, калі ўдарным парадкам праводзіцца цэлы шэраг гаспадарчых кампаній, правядзеньне якіх у мінулым годзе ў некаторых мясцох палажыла пачатак пакрыўленьням і перагібам. Частка сялян села Паўлавіч (б. Аршанская акруга) пры выхадзе з калгасаў заяўляла: „мы серадняки ў калгас уступілі толькі ўвосень 1929 г. не таму, што жадалі, а хаваліся ў калгасы, як пад зонцікам ад хлеба-бульба-нарыхтовак, а зараз выходзім з калгасу“. Канечна, за такі рост калектывізацыі двароў і плошчы працаўнікоў трэба прыцягваць да суровай адказнасьці.

„Гвалт у адносінах да сярэдняга сялянства становіць сабой найвялікшую шкоду. Гэта—пласт многалікі, шматмільённы. Нават у Эўропе, дзе ён нідзе не дасягае такой сілы, дзе гіганцка разьвіта тэхніка

і культура, гарадзкое жыцьцё, чыгункі, дзе лягчэй за ўсё было-б думаць аб гэтым—ніводны з самых рэвалюцыйных сацыялістых ніколі не прапанаваў гвалтоўных мер у адносінах да сярэдняга сялянства" (Ленін, том XVI, стар. 150).

Аб гэтым папярэджваньні неабходна памятаць саветам у іх штодзённай працы пры гаспадарчых узаемаадносінах з серадняком.

У практыцы работы саветаў сустракаюцца і другога роду недарэчнасьці, калі ролю саветаў спрабуюць падмяніць калгасы. Як відаць асуджаны артыкулы Дацэнка—„Рабочая Москва" 19-X-29 г. і Рахава „Известия" 11-IX-29 г. знайшлі прыпынак у галовах некаторых працаўнікоў. Дацэнка пісаў і „пры суцэльнай калектывізацыі сяленьняў з поўным абагульненьнем усе функцыі сельскіх саветаў ажыцьцяўляюцца калгасамі", і адгэтуль робяць вывад: „захаваньне сельскіх саветаў пры наяўнасьці суцэльнай калектывізацыі сяленьня... будзе лішняй і дарагой адміністрацыйнай надбудовай над калгасамі". Рахаў піснуў яшчэ шырэй „калгасы рашаюць і пачынаюць праводзіць у жыцьцё задачы сельскіх саветаў, калгасы апераджаюць дзейнасьць сельсаветаў, ці не зьяўляецца калгас—сяло пачаткам адміраньня асобных зьвеньняў дзяржаўнасьці ў нашым савецкім Саюзе, будуючым соцыялізм.—Здаецца на першы погляд абодвы аўтары павярнулі руль „лева". На самай справе аб'ектыўна гэта самы высокапробны правы апартунізм.

Такім поглядам і адносінам да ролі саветаў у рэканструкцыйны пэрыяд народнай гаспадаркі трэба даваць рашучы адпор.

Тав. Ленін ня раз паказваў, што адміраньне дзяржавы пачнецца пасапраўднаму толькі тады, калі адамруць клясы. Клясы, як вядома, у нас не адмерлі і абвостраная клясавая барацьба не прыпыняецца, а пагэтаму і роля саветаў, якія зьяўляюцца формай дыктатуры пралетарыяту не павінна быць падменена, або адсунута на задні плян. Мы толькі прыступілі да ліквідацыі кулацтва як клясы, сустракаем шалёнае супраціўленьне і пагэтаму саветы, выконваючы вялікую задачу, як органы ўлады—павінны дапамагчы прыдушыць супраціўленьне кулацтва і іншых капіталістычных элемэнтаў.

Такім чынам, праводзячы ў жыцьцё абгрунтаваны пяцігадовы плян сацыялістычнай рэканструкцыі народнай гаспадаркі, саветы павінны ў фундамант сваёй дзейнасьці палажыць пастановы Ураду, праводзячы калектывізацыю вёскі, апірацца на беднату, трымаючы моцны саюз з серадняком. Толькі ўвязваючы і па бальшавіцкі выконваючы ўсе галіны праведзімых палітычна-гаспадарчых кампаній, рашуча наступаючы на капіталістычныя элемэнты гораду і вёскі, даючы пераможны адпор абанкроціўшымся правым апартуністым, можна быць упэўненым у больш пасьпяховым выкананьні наступнага Ленінскага зазначэньня: „у двое, у трое ўзьнялася-б вытворчасьць працы, у двое, у трое была-б ашчаджана людзкая праца для земляробства і людзкое гаспадаркі, калі ад раздробленай дробнай гаспадаркі зьвяршыўся пераход да гаспадаркі аграмаджанай".

**А. Мікуліч.**

# ДА ПУСКУ БЕЛДРЭС'у ІМЯ т. СТАЛІНА

„...ВАЖНЕЙШАЙ УМОВАЙ ФАРСІРАВАНАГА РАЗЬВІЦЬЦЯ ПРАМЫСЛОВАСЬЦІ І ЎСЕЙ НАРОДНАЙ ГАСПАДАРКІ Ў ЦЭЛЫМ ЗЬЯЎЛЯЕЦЦА ЎЗМАЦНЕНЬНЕ І ПАШЫРЭНЬНЕ ЭНЭРГЕТЫЧНАЙ БАЗЫ САЮЗА...“

(З РЭЗАЛЮЦЫІ XVI ЗЬЕЗДУ ЎсеКП(б)

Для пасьпяховага разьвіцьця ўсёй народнай гаспадаркі рэспублікі, правільнае вырашэньне энэргетычнай праблемы мае вялізарнае значэньне. Электрыфікацыя зьяўляецца кіруючай галінай народнай гаспадаркі і адыгрывае кіруючую ролю на ўсіх паказьніках ўзросту яе.

Пабудова і пуск 1-й Беларускай Раённай Дзяржаўнай Электрастанцыі імя тав. Сталіна (Асінбуд), ёсьць цэлая эпоха ў гісторыі Беларусі, кладзе пачатак новым перамогам на фронце сацыялістычнага будаўніцтва нашай краіны. Цэлы шэраг новых, яшчэ больш магутных станцый мяркуецца да пабудовы ў бліжэйшыя гады.

У пачатку 1927 году Савет Працы і Абароны зацьвердзіў 10 раённых электрычных станцый. А ў тым ліку і Беларускую Асінаўскую (Аршанскую), магутнасьцю ў 20 тыс. квт. у першую чаргу і 30 тыс. квт. у другую чаргу і ўжо ўлетку (май) 1927 г. было створана кіраўніцтва будаўніцтвам Асінаўскай станцыі і распачата падрыхтоўчая работа.

Галоўны корпус 1-й Бел. ДРЭС знаходзіцца у вёсцы Арэхі, каля возера „Арэхі“, у адлегласьці 24 кілём. ад г. Воршы і 14 кілём. ад энэргетычнай базы—Асінаўскіх тарфяных балот. Станцыя злучана і магістральнай шашой Ворша-Віцебск, спэцыяльна пабудаванай шашой Грышаны-Арэхі, з чыгуначнай магістральнай лініяй МББ—Менск—Масква. Станцыя злучана таксама пабудаванай шырокакалейнай лініяй Хлюсьціна—Арэхі. З Асінаўскім тарфяным масывам станцыя злучана вузкакалейнай тарфавознай веткай на працягу каля 15 кілёмэтраў, па якой торф з балота, у ваганэтках спэцыяльнага тыпу, дастаўляецца непасрэдна ў качёльную галоўнага корпусу станцыі, а таксама і на склад торфу, які знаходзіцца недалёка ад галоўнага корпусу.

У сучасны момант на балоце і на складзе маецца запас торфу ў 69 тыс. тон. (каля 4.200.000 пуд), які быў здабыты ў сэзоне 1929-30 г. У будучым сэзоне 1931 г. намячаецца здабыць каля 150 тыс. тон торфу (9.000.000 п.).

Раён абслугоўваньня Бел. ДРЭС: Віцебшчына, Аршаншчына, Магілеўшчына. Зьніжальныя падстанцыі знаходзяцца ў гарадох: Віцебску, Воршы, Дуброўна, Барані, Шклове і Магілеве—на першай чарзе і ў Копысі і Горках—на другой чарзе.

Праблема жылбудаўніцтва на станцыі вырашана поўнасьцю пабудовай новага рабочага пасёлку ў Арэхах і аднаўленьнем пасёлку ў Выдрыцах. У Арэхах пабудавана 7 трохпавярховых камяніц, 2 катэджы, а ўсяго 182 кватэры з 376 пакоямі.

У пасёлку Выдрыцы нанова пабудавана 11 драўляных дамоў і аднаўлена 13 камяніц—22.377 куб. мэтр. Усяго маецца тут 52 кватэры, інтэрнат і памяшканьне для сямігодкі.

Пэрспэктывы пашырэньня і разьвіцьця Станцыі наступныя: ужо ў сучасны момант, яшчэ да пуску першай чаргі, станцыя пашыраецца на 24.000 кв. з устаноўкай 2-х турбін на 12 т. квт. і 2-х катлоў па 950 кв. мэтр. Абсталяваньне заказана заводам СССР і распачаты будаўнічыя работы на пашырэньні, а фундаманты ўжо закладзены. Па пляну, зацьверджанаму Энэргацэнтрам ВСНГ СССР, мяркуецца ў 2-ю чаргу пусьціць у эксплёатацыю ў канцы 1931 году, а ў наступным пяцігодзьдзі ўстанавіць яшчэ 2 агрэгаты па 24.000 квт. кожны і давесьці агульную магутнасьць станцыі да 92 тыс. квт.

Пры пабудове станцыі прыходзілася сустракацца са шматлікімі цяжкасьцямі і толькі дзякуючы энтузіязму рабочых і адміністрацыйна-тэхнічнаму пэрсоналу ўдалося перамагчы іх. У сучасны момант Асінбуд зьяўляецца магутным рычагом і фактарам індустрыялізацыі нашай краіны і сёньнешні рост нагрузак пацьвярджае цалкам нашу ўстаноўку на электрафікацыю краіны. Шэраг новых энэргаёмкіх прадпрыемстваў узьнік у раёне дзейнічаньня Асінбуду, цэлы шэраг рэканструюецца і пашыраецца.

Пуск 1-й Бел ДРЭС 8-га лістападу, згодна з пастановай СНК БССР, абазначае паварот у гісторыі індустрыялізацыі Рэспублікі і адзначае вялізарнае дасягненьне. Ужо ў 1931 г. мяркуецца адпусьціць з шын станцыі каля 55 млн. квт. гадзін, што дасьць магчымасьць замяніць дзесяткі тысяч тон вуглю і з'эканоміць сотні тысяч рублёў, прымаючы пад увагу больш танны кошт электраэнэргіі.

Трэба яшчэ падкрэсьліць, што Асінабуд мае вялікае значэньне для індустрыялізацыі і мэханізацыі сельскай гаспадаркі. Ад Асінбуду ў першую чаргу будуць электрафікаваны саўгас „Высокае“ і калгас, які знаходзіцца недалёка ад станцыі, а таксама будуць пракладзены 3 трасы ад Віцебску да электрыфікацыі саўгасаў і калгасаў у радыусе каля 15—20 кілёмэтраў. Складаюцца праэкты водпуску энэргіі з вучотам росту калектывізацыі ў Віцебскім, Дубровенскім, Аршанскім Магілеўскім і інш. раёнах, прычым ужо ў 2-ю чаргу Асінбуд зможа адпусьціць сваю электраэнэргію аграіндустрыяльнаму камбінату, які будуецца ў Дубровенска-Ляднянскім раёне.

Інж. ВСНГ БССР **М. А. Рыўкін.**



Загатоўлена 70 тысяч торпу для электрастанцыі Асінбуду.



8 ліст.пада пушчана Бел. Раённая Дзяржаўная Электрастанцыя (на Арш... ыне). Акрамя дачы
электрастанцыя будзе асьвятля... ...йшыя саўгасы



Электрастанцыя (на ...ыне). Акрамя дачы электраэнэргіі заводам Віцебску, Воршы і Магілеву, ...астанцыя будзе асьв...лі кэйшыя саўгасы і калгасы.

# ШЫРЭЙ ФРОНТ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ

„ДА КАНЦА ПЯЦІГОДКІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫЯ СССР У АСНОЎНЫМ ПАВІННА БЫЦЬ СКОНЧАНА“. (СТАЛІН).

## АДЗІН З ЛЕПШЫХ

(*Вушацкі раён*)

У былым абшарніцкім маёнтку Арэхаўна знаходзіцца сельска-гаспадарчая арцель „Чырвоны Кастрычнік“, якая існуе з 1922 г.

Спачатку было організавана тут Таварыства па супольнай апрацоўцы зямлі ў складзе 15 гаспадарак, амаль выключна з батракоў, якія гадамі эксплёатаваліся вядомым абшарнікам Грабніцкім. У час акупацыі белапольскіх войск Т-ва перанесла ўсе жахі зьдзекаў, маемасьць іх была цалкам зьнішчана, за выключэньнем некаторай часткі будынкаў. Ня гледзячы на гэта, таварыства непакладае рук, вядзе рашучую барацьбу з кулацтвам, прымае ўсе захады да пашырэньня і ўзмацненьня свайго Т-ва. І ужо ў 1927 г. таварыства рэарганізоўваецца ў сельска-гаспадарчую арцель, у якой налічваецца 17 гаспадарак.

Пасьля рэарганізацыі арцель з большым яшчэ энтузіазмам узялася за працу. Паступова пачалі ўлівацца ўсё новыя і новыя члены, ахапляючы з кожным днём усё большую тэрыторыю, паляпшаючы сваю гаспадарку і лепшымі прыкладамі вядзеньня яе поступова зацікавілі батракоў і бядняцка-серадняцкія масы акаляючых вёсак і, ужо 7-га лістапада 1929 г. на агульным калгасным сходзе, у присутнасьці каля 300 чал. сялян акаляючых вёсак, калгас ставіць сваю справаздачу аб выніках праробленай працы і прымае назву калгасу „Чырвоны Кастрычнік“.

Пасьля гэтага калгасьнікі энэргічна ўзяліся за ўзмацненьне сваёй гаспадаркі, бяручы ўстаноўку на пашырэньне калгасу за лік бядняцка-серадняцкіх мас акаляючых вёсак, праводзілі растлумачальную працу сярод беднякоў і серадьнякоў за масавы прыліў у калгас, за паляпшэньне бытавых і культурных патрэб калгасу і, ужо ў зіму і вясну 1929 30 г. калгас прыцягнуў да сябе сотні экскурсантаў ня толькі Ушаччыны, але і Вульшчыны і Лепельшчыны. Сяляне ішлі паглядзець, як жывуць Арэхаўскія калгасьнікі, апошнія паказвалі ўсё добрае і дрэннае ў іх працы. Пасьля наведваньня сяляне падавалі заяву аб прыёме ў калгас. Побач з гэтым, на сялянскіх сходах, па пытаньню аб калектывізацыі—сяляне заяўлялі „тады пайду ў калгас, калі пагляджу як жывуць Арэхаўскія калгасьнікі“. На сходах выбіралі дэлегатаў для агляду жыцьця Арэхаўскіх калгасьнікаў.

Калгас „Чырвоны Кастрычнік“ узорам стаў перад астатнімі калгасамі, стаў адзін з лепшых на Ушаччыне ў вачох як акаляючых вёсак, таксама і сялянства ўсяго раёну.

Становішча калгасу „Чырвоны Кастрычнік“ на 1/X-29 г. і на 1/X-30 г. характарызуецца наступнымі паказальнікамі:

| Па гадох | Едакоў | Лік гаспадарак | Агульн. плошча | Плошча пахаці | Плошча пасеву | Рабоч. жывёлы | Кароў | Цялят | Сьвіней |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| На 1-X-1929 . | 128 | 26 | 349 | 130 | 109 | 27 | 42 | 13 | 13 |
| „ 1-X-1930 . | 420 | 114 | 1197,23 | 509,58 | 397 | 54 | 153 | 85 | 220 |

Узбуйненьне калгасу „Чырвоны Кастрычнік“ на працягу году з 349 да 1197,23 *га*, з аб'яднаньнем сямей замест 26 да 114—яскрава паказвае, што калгас даказаў перавагу калгаснай гаспадаркі перад дробнай аднаасобнай гаспадаркай і, што ўся праца калгасьнікаў пад кіраўніцтвам калгаснай партячэйкі не прайшла дармо.

Па сацыяльнаму складу калгас аб'ядвае: батракоў—48 сямей, беднякоў—43, сераднякоў—14, сямей служачых—12. Па партыйнасьці: членаў і кандыдатаў КПБ 14 чалавек, камсамольцаў—12.

### Зямельная тэрыторыя калгасу:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Сядзібы . . | 27,69 *га* | Лесу . . . | 97,44 *га* |
| Пахаці . . | 509,58 „ | Выгану . . | 7,70 „ |
| Сенажаці . . | 310,74 „ | Кустоў . . | 20,41 „ |
| Сенаж. сух. . | 20,27 „ | Балот . . . | 203,10 „ |
| | | Разам . . . | 1197,23 *га* |

Зямляўпарадкаваньне праведзена ў 1930 г. Напрамак гаспадаркі да гэтага часу быў пераважна жывёлагадоўчы, а з вясны 1931 года пачне перабудоўвацца ў ільнаводна-канапляны з жывёлагадоўчым ухілам з давядзеньнем плошчы пад лён да 25 проц. і пад травамі да 40 проц.

### Выкананьне пляну засеву ў 1930 г. у *га*

| | Жыта | Пшан. з мов. | Авёс | Ячмень | Віка | Гарох | Лён | Каноплі | Бульба | Кораньпл | Капуста | Інш. гар д. | Падсол. на сіл | Канюш. укосн. падсеўн. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Плянавае заданьне . | 80 | 5 | 65 | 35 | 13 | 10 | 30 | — | 25 | 8 | 2 | 5 | 0,5 | – /28 |
| Выканана . | 90 | 8 | 72 | 35 | 17 | 13 | 35 | 1 | 28 | 10 | 2 | 16 | 1 | 70/52 |

Засеў яравых калгас скончыў першым у раёне, азімыя таксама засеяны своечасова па добра падрыхтаванай глебе. Папарнае поле на 25 проц. было занятым і рэшта раньнім. Уборка ўраджаю праведзена пасьпяхова. 13/X скончылі ўборку бу.. ы.

### Выкананьне аграмінімуму

| | Ачыстка насеньня | Пратруч. | Палепш. сенаж. | Угнаен. торфам | Увядзен. палепш. папару | Пабудова сілосных ям | Сілос. кармоў | Карыст. печн. попелу | Зябліў. ворава |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Плянавае заданьне . | 40 *т* | 2 *т* | 35 *га* | 10 *га* | 45 *га* | 4 | 100 *т* | 4 *т* | 100 *га* |
| Выканана . | 41 „ | 2 „ | 20 „ | 10 „ | 50 „ | 4 | 120 „ | 5 „ | 30 „ |

Увага. Зьвесткі па выкананьню аграмінімуму ў часьці паляпшэньня сенажаці і зяблівага ворыва, бязумоўна, ня поўныя, бо гэта праца праводзіцца і зараз; плянавае заданьне будзе выканана на 100 проц.

## Жывёлагадоўля

Склад жывёлы ў калгасе наступны:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Коняй рабоч. | 54 | Цалят да 1 г. | 85 |
| Жарябят ад 1—3 | 21 | Быкоў вытворных | 3 |
| „ да 1 г. | 7 | Сьвіней даросл.—матак | 28 |
| Жаробк. вытворн. | 2 | Баравоў | 14 |
| Кароў | 129 | Падсьвінкаў | 168 |
| Нецелей ад 1 да 3 г. | 24 | Кныроў | 3 |

У калгасе вядзецца праца па якаснаму паляпшэньню жывёлы. З маючыхся 2 жарабкоў-вытворнікаў, адзін чыстакроўны Арлоўскі і другі мэтыс Арлоўскага. Быкі-вытворнікі швэдзкай пароды. Усе сьвінаматкі і кныры—белай ангельскай пароды. Памяшканьні для жывёлы ўцеплены і ўсьветлены; сіламі калгасу пабудаваны і абшалёван у гэтым годзе сьвінарнік на 60 сьвіней. Маючыміся вытворнікамі калгас абслугоўвае жывёлу акаляючага сялянства.

## Садоўніцтва

Акрамя 6 *га* саду былога абшарніка, калгасам у мінулым годзе пасаджана саду 3 *га* і ў гэтым годзе падрыхтавана для закладкі новага саду яшчэ 3 *га*. У калгасе маецца з ліку калгасьнікаў 2 спэцыялістыя садоўнікі, скончыўшыя садаводныя курсы, якія займаюцца выключна гэтай працай.

## Сельскагаспадарчы інвэнтар

Сельскагаспадарчы інвэнтар у калгасе большасьцю дробны, атрыманы ад сялян, якія ўвайшлі ў калгас, за выключэньнем 2 жатак, 2 касілак, конных грабель і паўскладанай малатарні з рухавіком. Акрамя гэтага з кожным годам калгас папаўняе сельскагаспадарчы інвэнтар шляхам завозу з каапэрац. арганізацый і, на тую наяўнасьць рабочай жывёлы—інвэнтару хапае.

## Непадзельны капітал калгасу

| | | |
|---|---|---|
| Перададзена дарэмна маемасьці на | 57.281 | руб. |
| „ кулацкай маемасьці на | 50.200 | „ |
| „ жывы інвэнтар на | 27.000 | „ |
| „ мёртвы інвэнтар на | 7.577 | „ |
| „ корму | 15.000 | „ |
| „ затраты ў лік будуч. году (садоў насадж. і інш.) | 7.756 | „ |
| Насенны фонд | 7.000 | „ |

## Валавы прыбытак калгасу за 1930 год

| | | |
|---|---|---|
| Паляводзтва | 26.474 | руб. |
| Лугаводзтва | 13.843 | „ |
| Садоўніцтва | 2.000 | „ |
| Малочная жывёла | 10.049 | „ |
| Сьвінаводзтва | 5.422 | „ |
| Аўчарства | 404 | „ |

| | | |
|---|---|---|
| Рыбная гаспадарка | 4.056 | руб. |
| Цагельны завод | 6.000 | „ |
| Пчалярства | 200 | „ |
| Кураводзтва | 597 | „ |
| Заробак цяг. сілы | 1.474 | „ |
| Інш. прыбыткі | 570 | „ |
| А разам валавы прыбытак калгасу складае | 80.087 | руб. |

На разьмеркаваньне сярод членаў калгасу павінна пайсьці 52.200 р., што на аднаго працоўнага складае 240 руб., а на серадняцкую калгасную сям'ю з 3 ма працаздольнымі—720 р. Падлічан прыбытак серадняцкае гаспадаркі за мінулы год (зараз ён у гэтым калгасе) Вітко Хведара, які на сваёй гаспадарцы атрымоўваў на працаздольнага каля 170 р., а ў калгасе—240 р. на працаздольнага.

## Культурна-бытавыя ўстановы

У калгасе маецца 2-камплектная школа, у якой навучаецца 45 дзяцей калгасьнікаў, акрамя іх—школу наведваюць дзеці акаляючых вёсак, сяляне якіх яшчэ знаходзяцца па-за калгасам. Існуе лікпункт Калгасьнікі пастанавілі ў гэтую зіму ліквідаваць няпісьменнасьць (няпісьменных маецца ўсяго 75 чал.).

Дзіцячы сад, арганізаваны ў маі м-цы 1929 г. У бягучым годзе сіламі калгасу пабудавана спэцыяльнае памяшканьне пад дзіцячы сад. Дзетсад функцыянуе круглы год. Ахапляе 35 дзяцей дашкольнага ўзросту; дзетсадам ахоплены ўсе дзеці калгасу. Побач з гэтым існуюць круглы год дзіцячыя яслі, так што жанчыны круглы год вольныя. Увесну свабодна працуе на полі, а ўзімку на лікпункце, наведвае клюб, гурткі і інш. Маецца спэцыяльная дзіцячая кухня, усе дзеці ўтрымліваюцца на сродкі калгасу, гэта самае і ў адносіне да старыкоў, якія да працы ўжо ня здольны.

У калгасе маецца свой клюб, пераабсталяваны з былой царквы (царква перадана згодна пастановы Цэнтральнай Камісіі). Пры клюбе існуюць гурткі: культасьветны, спэцыяльна-драматычны пад кіраўніцтвам настаўнікаў, фізкультурны, у клюбе пэрыядычна ставяцца спэктаклі і ніводзін раз, ня гледзячы на яго вялікі разьмер, не зьмяшчае сялянства акаляючых вёсак. Пэрыядычна ў 2 м-цы раз выпушчаецца насьценгазэта, на старонках якой разгорнута крытыка і самакрытыка як працы калгасу, гэтак сама і паасобных яго членаў, арганізаваны селькораўскі гурток, у якім працуе 12 чалавек калгасьнікаў.

На тэрыторыі калгасу існуюць трактарныя курсы, якія бязумоўна шмат дапамагаюць як у культурнай працы, таксама і ва ўборцы ураджаю.

У калгасе маецца ў спэцыяльна-абсталяваным памяшканьні вялікая сталоўка, якая ахапляе 80 проц. усіх калгасьнікў. Пры сталоўцы пабудавана спэцыяльная кухня, у якой працуе асобная брыгада жанчын. Акаляючае сялянства асабліва цікавіцца грамадзкім харчаваньнем калгасу.

## Прадпрыемствы калгасу

Райкалгассаюзам занава пабудаваны і абсталяваны ільна-сушыльна-мяльны пункт і перададзены ў карыстаньне і эксплёатацыю калгасу, які ахопіць апрацоўку лёну 4 калгасаў. Гэтымі днямі калгас прыступае да апрацоўкі лёну.

Маецца цагельны завод, які выпрацаваў у гэтым годзе 200.000 шт. цэглы на суму 7.000 р., уся цэгла пашла на калгаснае і раённае будаўніцтва.

У цэнтры калгасу абсталяваны сіламі калгаса млын, выключна для патрэб калгасу. Млын працуе лёкамабілем.

Рыбная брыгада, арганізаваная з калгасьнікаў, у гэтую вясну здала пралетарскім цэнтрам 30 тон рыбы на суму 4.500 р.

### Выкананьне абавязкаў перад дзяржавай

| | Па пляну | Выканана |
|---|---|---|
| Хлебанарыхтоўкі | 44 тоны | 64 тоны |
| Яблык | — | 20 „ |
| Масла | — | 6 пуд. |
| Малака санаторыі „Баркоўшчына“ | — | 4,5 тоны |
| Воўны | — | 1 ц. |
| Здана каапэрацыі кароў | — | 19 галоў |
| „ сьвіней | — | 16 „ |
| „ курэй | — | 50 „ |
| Сельскагаспадарчага падатку | — | 700 (здана поўнасьцю і першым у раёне) |
| Рэаліз. пазыкі | 1.200 р. | 1.800 р. |

Увага. Уся таварная частка працукцыі закантрактавана.

### Дапамога іншым калгасам і паасобным бядняцкім гаспадаркам акаляючых вёсак

У вясеньнюю пасеўкампанію аказана дапамога з выездам у Ветрынскі раён у калгас імя „Будзённага“, дзе працавала 30 працдзён мужчын і 36 дзён конскіх. Апрацована сіламі калгасу і засеяна сваім насеньнем у час вясеньняй і асеньняй пасеўкампаній 7 бядняцкім гаспадаркам плошчаў 21 *га*. Машынамі калгасаў ачышчана насеньня 20 тон, злучным пунктам пакрыта кароў—182, кабыл—20 і сьвіней—80. Акрамя гэтага маецца шэраг выпадкаў калі сяляне бралі машыны ў калгасе для апрацоўкі сваёй глебы. Побач з гэтым ёсьць выпадкі, калі калгас даваў аднаконныя плугі ў сталае карыстаньне ўдовам—бядначкам без усялякай платы.

### Сацспаборніцтва і ўдарніцтва

Калгас „Чырвоны Кастрычнік“ увесь час у сваёй штодзеннай працы прымяняе сацспаборніцтва. У мінулы год была заключана сац. умова з калгасам імя „Леніна“ на лепшую вясеньнюю сяўбу. Умова ня толькі была выканана, але па цэламу шэрагу галін перавыканана. На лепшую ўборку ўраджаю і асеньняй сяўбы зноў заключана ўмова з гэтым жа калгасам і на сёньнешні дзень умова выканана.

Сацумовы заўсёды ставіліся на шырокае абгаварэньне агульнага сходу калгасьнікаў, у выкананьне гэтага дагавору з шэрагу калгасьнікаў былі створаны ўдарныя брыгады па кожнай галіне гаспадаркі.

Толькі на аснове сацспаборніцтва і ўдарніцтва калгас пасьпяхова справіўся з уборкай ўраджаю і мае значныя посьпехі па ўсіх галінах сваёй працы.

13 кастрычніка на агульным сходзе абгаварвалася справаздача праўленьня.

Былі разгорнуты шырокія спрэчкі. Калгасьнікі—разам з дадатнымі бакамі—адзначалі, што на сёньнешні дзень сярод некаторых калгасьнікаў заўважваюцца нядбайныя адносіны да працы, несваячасовы выхад на працу і ня добрай якасьці праца. Маецца яшчэ бесгаспадарчасьць па некаторых галінах гаспадаркі.

Дрэнныя жыльлёвыя ўмовы (у адным пакоі 2—3 сям'і). Слаба кіруе праўленьне падсобнымі гаспадаркамі і інш.

Агульны сход калгасьнікаў намеціў канкрэтныя мерапрыемствы, якія дадуць мажлівасьць у найхутчэйшы час зьнішчыць тыя недахопы ў працы, якія маюцца на сёньнешні дзень, выканаць і перавыканаць усе плянавыя заданьні і г. д.

На гэтым-жа сходзе былі прэміраваны 10 чалавек лепшых ударнікаў, з прыкладных калгасьнікаў батракоў і бедня оў.

Акрамя гэтага агульны сход высунуў на ўсебеларускі конкурс лепшых ударнікаў-батракоў, 3 чал.: 1) Лісоўская Хадора—батрачка, уступіла ў калгас у 1928 г., наглядае за сьвінямі ў калгасе; 2) Гунько Сьцяпан—батрак, уступіў у калгас у 1929 г.; 3) Птушко Пятрок—бядняк, уступіў у калгас у 1922 г. Гэтыя кандыдатуры дэталёва абгаварваліся на агульным сходзе.

Калгасьнікі заўсёды памятаюць аб тым, што на іх ляжыць вялізарнейшая адказнасьць у справе пе абудовы сельскай гаспадаркі на сацыялістычны лад. Таму шчыра кожны працуе ў калектыўнай гаспадарцы.

Адамчук.



**Агульны** сход членаў калгасу „Красная Звезда" і запрошаных аднаасобнікаў (Н.-Волжскі край) абгаварваюць разьмеркаваньне ўраджаю сярод калгасьнікаў.

# „ПРАМЕНЬ КАМУНЫ“

*(Старобінскі раён)*

### Як калгас арганізаваўся.

Дзе цяпер калгас „Прамень Камуны“ раней быў панскі маёнтак Відоцкае. Жыў пан з паняю, але гаспадаркай пан ня вельмі займаўся. Гаспадарка грымалася працаю парабкоў, якіх было шмат. У Кастрычнікаўскія дні маёнтак згарэў, засталася абора, сьвіран і дзьве малых хаткі. Сяляне з вёскі ў часы пажару ўсё разабралі. Пані і ўся чэлядзь далі драла да Варшавы.

У часы акупацыі паны прыяжджалі, зьдзекаваліся над сялянствам. Зямлю спачатку выкарыстоўвала вёска і батракі, што засталіся жыць, але пасьля беднякі і батракі задумалі згуртавацца і жыць разам, арганізаваўшы калгас. Кулакі насьміхаліся, але ніхто ўвагі не зварочваў і ў 1928 г. у канцы сакавіка 7 сямей, батракоў і беднякоў, падпісалі статут с.-г. арцелі.

З пачатку вясны ўзяліся за працу. Цяжка было. Ня было цягавай сілы і інвэнтару. Кулакі насьмяхаліся і з іроніяй паглядалі на калгас. Але нічога. Ня быліся пляны ворагаў.

У 1929 годзе ў в. Чапялях мецілася зямляўпарадкаваньне на пасёлкі. Але дзякуючы актыўнай працы і прапагандзе як камсамольскай, так і раённых працаўнікоў вёска Чапялі падняла рэвалюцыю. Рэвалюцыю супроць старога быту. Кулакі апусьцілі насы і слухалі што будзе далей. Беднякі і серадн яки пайшлі ў калгас. Пачалася барацьба за новае жыцьцё, за жыцьцё „Прамень Камуны“. У 1929 г. сеялі цераспалосна, а цяпер маем выразаную зямлю. Калгас налічае 108 сямействаў, апрача некаторых працаўнікоў-адзіночак.

### Маемасьць калгасу

Арцель застала апустошаныя будынкі, што засталіся ад маёнтку, а ўсё астатняе было зьнішчана. Але праз два гады ўпартае працы, арцель мае чым пахваліцца. Маецца добрая дзіскавая трактарная барана, 5 веялак, маецца добры плуг (трактарны), бароны „Зіг-Заг“ 15 трапчатак і дзьве пары параконных. Маюцца 3 жняяркі, 1 касарка, 1 грабельня, сіласарэзка, простая саломарэзка, дзьве машыны для цёркі насеннай канюшыны, пружыноваk-драпакоў 15 штук і культыватар.

У калгасе маецца машынна-трактарная станцыя, якая мае 11 трактароў і шмат розных машын. Але-ж пакуль што будынка для хаваньня машын няма і яны стаяць пад адкрытым небам. Маецца ўласны калгасны трактар „Інтэрнацыянал“, які цяпер знаходзіцца ў калёне. Калгас карыстаецца машынамі ў поўнай меры і забясьпечаньне з гэтага боку добрае.

Калгас за год мае вялікія дасягненьні ў галіне будаўніцтва. Пабудована новае вялізнае гумно, вялізная абора і сьвінарнік. Пабудована канюшня, малочная і тры жыльлёвыя шматкватэрныя дамы. Сьвінух — гэта цёплае культурнае памяшканьне. Пасярэдзіне якраз у палавіне сьвінарніка кузьня; тут умазана чатыры катлы для гатаваньня ежы. Паабапал сьвінарнік. Адчыніўшы дзьверцы ўваходзіш у калідорчык. Калідорчык цэмантавы і мае выпукласьць па бакох канаўкі, па якіх

сьцякае жыжа. А паабапал стаяць глухія перагародкі з варотцамі і дзісамі. Катушок таксама выцэмантаваны, стаіць карыта, у якое кладзецца корм. Тут жа ёсьць пляцформа, зьбітая з дошчак, на якую кладзецца салома, дзе і сьпяць сьвіньні. Сьвінарнік з вокнамі—сьветлы. З сярэдзіны выбелены. Гной выкідаецца кожны дзень. Абора, дзе стаяць каровы, таксама з вокнамі—адным словам сьветла.

### Як вядзецца гаспадарка

Арцель мае зернаводчаскі ўхіл. У сувязі з гэтым ужыты 9-польны севазварот, тут ён яшчэ першы год, так што дакладная разьбіўка і плянаваньне яшчэ пакуль што адсуднічаюць. Надалей гэты недахоп мяркуецца зжыць. Заведзена сартовае насеньне, маецца пяткускае і сваё палепшанае. У гэтым годзе нават ураджаі лепшыя, чым у мінулым годзе. Цяпер яны мелі і маюць: жыта 150 *га*, жыта было добрае, аўса 150 *га*, ячменю 40 *га*, бульбы 130 *га*, лёну 15 *га*, вікі на насеньне 10 *га*, кошанкі 30 *га*, канюшыны 90 *га*, падсеўных траў 36 *га*, сэрадэлі 30 *га*, лубіну на насеньне 15 *га*, на ўгнаеньне 35 *га*, гароху 5 *га*, каноплі 2 *га*, ляжы на насеньне 29 *га*. Папар у іх засяўны (лубін і віка) 120 *га*.

Процант пашырэньня пасеўплошчы супроць 28-29 г. г.—40 проц. Ужываюцца штучныя ўгнаеньні, супэрфосфат, калійныя солі, касьцяная мука, попел і г. д. Штучнае ўгнаеньне кладзецца перад пасевам, а тэрмін накладу залежыць ад якасьці таго ці іншага ўгнаеньня. Асноўнае ўгнаеньне—гной. К веснавой пасеўкампаніі калгас меў прыблізна: аўса 1800 пуд., бульбы 10.000 і г. д.

Насеньне было пратраўлена цалкам і поўнасьцю. Але авёс быў папсаваны галаўнёй на 30 проц. У гаспадарцы не малое месца займае і жывёлагадоўля. Дойных кароў маецца 167, нядойных 27. Большая частка кароў чырвонай беларускай пароды, а ёсьць і мэтысы. Цялят маецца 101. 70 штук пасецца ў сябе, як-бы ў філіі калгасу—Багданаўцы. А рэшта аддадзена на пашу ў ур. „Плянта". Пашы для кароў амаль няма. Зімою ў хляве давалі больш малака, як на пашы летам. Племянных быкоў 3, мэтысы 2 і 1 галяндзкае пароды. Стада меціцца забясьпечыць сіласам поўнасьцю. Маецца 6 сіласных ям, на 4000 пуд. кожная. І будзе вежа на 18 тыс. пуд. Для сіласаваньня маецца сланечніку ге тараў 40, кукурузы 45 *га*, кошанкі 15 *га* і розныя іншыя культуры. Маецца малочная. Тут ёсьць сэпаратар і машына для вырабу масла; за 45 хвілін можна зьбіць каля 3 пуд. масла. Малако на пераапрацоўку прывозяць з другіх калгасаў—„Барацьба" і „Чырвоны Хлебароб". Арцель мае тры сады: стары, сярэдні і малады. Старога і сярэдняга саду 10 *га*, маладога пасаджанага ўвосень 29 *га*. Ёсьць розныя каштоўныя сарты: „Анна Людвіна", „Слуцкая Бэра" калбасаплоцкая, „Бессямяньніца" і інш.

### Як калгасьнікі працуюць

Улетку працуюць 8—11 гадзін, а ўзімку 6—7 г. Вечарам даюцца зьвесткі, хто дзе працаваў, пішацца ў табэль і зацьвярджаецца. Аплата па разрадам, якіх VI:

| | |
|---|---|
| I—60 к. | IV— 96 к. |
| II—72 „ | V—1 р. 08 „ |
| III—84 „ | VI—1 „ 20 „ |

Па першаму разраду лічыцца паездка ў горад. Па II—начныя старажы, якія згоджаны з 1 мая па 1 кастрычніка. III—птушкаводы, працаўнікі ясьляй, пасадка флянсаў. IV—усе палявыя работы, V—загадчыкі галін і плотнікі, VI—пастухі і старшыня калгасу.

Працоўнай сілы не хапае і яна часткова папаўняецца наёмнай. Гэты год шмат дапамагалі практыканты Слуцкага БПТ і БПК, якія прыяжджалі туды на аграпрактыку, як у прыкладны калгас.

У калгасе маецца цэлы „курыны пасёлак“. Там разводзяцца пародзістыя куры—чырвоныя—Радайланды, белыя—мікгорны. Але трэба там разводзіць мінорکі, як найбольш даходныя і прыстасаваныя да ўмоў. Маецца два інкубатары. Калгас закантрактаваў шмат розных культур. Дагавор сац.спаборніцтва заключан з калгасам „Расьсьвет“.

Забясьпечаньне прадуктамі і г. д. здавальняючае.

### Будаўніцтва

Будуецца сыраварня, кіно-станцыя парка, бальніца, сямігодка, каапэрацыя, майстэрня, абора, сталоўка, баня, птушнік на 4000 галоў, сьвінарнік і жыльлёвыя дамы. У агуле калгас „Прамень Камуны“ мае на мэце ў далейшым сваім разьвіцьці ператварыцца ў сацыялістычны гарадок.

**А. Алешка.**

## ЯК ЖЫВЕ КАЛГАС „СЕРП“

(*Глускі раён*)

На 192 гектарах (маентак был. абшарніка Лінькевіча) зямлі, у 1925 годзе была створана нацыянальная яўрэйская сельска-гаспадарчая арцель „Серп“.

Пры стварэньні калгас аб'яднаў 12 бядняцкіх яўрэйскіх сямей з местачковага насельніцтва. Але большая частка з гэтых ня вытрымала цяжкасьцяй і вышла з калгасу. На іх месца прыходзілі ўсё новыя і новыя калгасьнікі.

Пра першыя дні жыцьця калгасьнікі апавядаюць:

— Вельмі цяжка было працаваць спачатку, бо раней, самі вы ведаеце, працаваць на зямлі нам не дазвалялася. Будоўля (жыльлёвая і гаспадарчая) у большасьці нашага калгасу была зусім паломана, на палёх расьлі толькі сарнякі ды іншыя шкодныя расьліны. Наша маемасьць спачатку была зусім невялічкая, пагэтаму большая частка зямлі, у тыя гады, намі не засявалася.

— Ды яшчэ бяда была,—паскробшы патыліцу, пачаў расказваць другі калгасьнік. Першае, што мы працаваць на сельскай гаспадарцы не ўмелі. І, па-другое, што некаторыя з акаляючага насельніцтва на нас варожа глядзелі, сьмяяліся на кожным кроку з нас, а дапамагаць з іх ніхто не хацеў. Так мы самі, слухаючы саветы прыяжджаючых аграномаў, і вучыліся... Прайшлі, а мо' і праляцелі пяць год.

Напалову забыты быўшыя цяжкасьці. Марудна, але верна, крок за крокам уперад, разьвілася гаспадарка арцелі.

У дзень юбілейнага сьвята, у дзень сваей „пяцігодкі“ адзначылі калгасьнікі свае дасягненьні за пяць год. А пахваліцца ёсьць чым.

У калгасе налічваецца цяпер 19 сямей з 75 едакамі. Адрамантаваны ўсе хаты для сяброў калгасу; усе, якія ёсьць хлявы. Пасаджана ўвосень 500 дрэў саду, ёсьць радыё з гучнагаварыцелем, рамантуецца, у былых панскіх пакоях, клюб. Пасьля сканчэньня пасеўнай кампаніі возьмуцца калгасьнікі будаваць першы новы будынак, дом-камуну на 8 кватэр. Усё гэта будзе складаць 12.490 рублёў.

За пяць год набыта калгасьнікамі дзіскавая барана, культыватар, радавая сеялка, сенакасілка, жатка, конныя граблі, малатарня, плугі, бароны і іншы дробны інвэнтар. Быў і трактар, але вясной бягучага году яго перадалі ў трактарную калёну. Рознага інвэнтару ёсьць на суму 11.549 р. 75 к.

Рабочых коняй ёсьць 11, ёсьць жарабок-вытворнік, маладняка конскага 5 штук. Кароў 82, два быкі-вытворнікі і інш. Уся жывёла ацэньваецца ў 11.536 р. 50 к. Паравы млын ацэньваецца ў 8.000 р.

Ураджай з гектару ў параўнаньні з 1925 годам, значна павялічыўся. Калгасьнікі ня толькі забясьпечваюць сябе прадуктамі, але добрую частку збываюць каапэрацыі. Масла і галяндзкі сыр, які выпрацоўваецца на сваім заводзе, адвозіцца непасрэдна ў Бабруйск. Яравых культур закантрактавана было ў гэтым годзе 41 гектар, угноена штучным угнаеньнем 15 гектараў, гноем 20 гектараў.

— Малайцы калгасьнікі,—кажуць акаляючыя сяляне. У гэтым годзе самі ўжо сваю зямлю засеялі хутчэй нас як вясной, так і ўвосень. Ніхто ня думаў, што з іх такія добрыя гаспадары выйдуць.

Бачучы добрую працу яўрэяў калгасьнікаў, перасталі сьмяяцца сяляне акаляючых вёсак. Заходзяць паглядзець, распытаць.

26 гектараў у гэтым годзе было засеяна жытам і 79,5 рознай ярыной. Весялей стала ў калгасе. Ёсьць хлеб, ёсьць і да хлебу.

Але поплеч з дасягненьнямі маюцца некаторыя і недахопы. На сёняшні дзень неналаджана яшчэ добра рахункаводзтва, адсутнічае культурна-бытавая праца, наглядаецца рэлігійнасьць асобных калгасьнікаў, няма вялікай палёгкі жанчыне.

**А. Дымкоў.**



У калгасе „Кр. Звезда“ Н.-Волжскага краю, для пад'ёму зябі былі пушчаны акрамя трактараў і валы.

# Арганізацыя працы і разьмеркаваньне ўраджаю ў калгасе „Баявік“

*(Грэскі раён)*

Калгас „Баявік“ арганізаваўся ў сакавіку м-цы 1930 г. у в. Пукове, Пукоўскі с/с. У калгасе на сёнешні дзень налічваецца 44 гаспадаркі. Пахатнай зямлі калгас мае 480 *га*. Калгас мае 30 коняй, абагуленых кароў 25, 20 цялят. Калгас „Баявік“ па Грэскаму раёну апраўдаў сваю назву—па баявому справіўся з бальшавіцкай пасеўнай і ўборачнай кампаніямі.

Сiламі калгасу пабудован плянавы сьвінарнік на 96 сьвіней і абора на 76 галоў; праведзены другія будаўнічыя работы.

Праца ў калгасе па правядзеньню ўборачнай кампаніі была арганізавана правільна. Вопыт асеньняй кампаніі паказаў, што падзённая аплата прыводзіла к нізкай вытворчасьці працы. На гэтым вопыце калгас уборачную кампанію праводзіў зьдзельна. Галоўнае месца ў калгасе займае вытворчая камісія, якая занімалася і дасканальна вывучала працэсы працы, нормы выпрацоўкі. Да гэтага часу первічны вучот у калгасе рабіўся на нарадзе, дзе адзначалася кожнаму, дзе ён быў на працы і колькі гадзін адпрацаваў, а зараз уведзены табелі, дзе на ўсіх работах даецца норма заданьня, як аднаму працаўніку, так і ўсёй брыгадзе; зроблена больш заданьня--атрымлівае больш.

**Што атрымалі калгасьнікі**

| №№ | Назва культуры | Колькі засеяна ў *га* | Сярэдні ўраджай у цнт. | Валавы ўраджай у цнт. | Кошт ураджю у руб. |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Аўса | 61 | 14 | 920 | 6.624 |
| 2 | Ячменю | 20 | 10 | 200 | 1.280 |
| 3 | Пшаніцы яравой | 2 | 10 | 20 | 200 |
| 4 | Бульбы | 22 | 200 | 4.400 | 11.000 |
| 5 | Лубіну насен. | 1 | 7 | 7 | 42 |
| 6 | Канюшыны | 4 | 20 | 80 | 70 |
| 7 | Вікі на насеньне | 2 | 5 | 10 | 72 |
| 8 | Лёну | 2 | 5 | 10 | 90 |
| 9 | Валакна | 2 | 1 | 2 | 24 |
| 10 | Жыта кулацкага | 25 | 10 | 250 | 1.825 |
| | | — | — | — | 21.544 р. |

| №№ | Назва культуры | Колькі засеяна ў *га* | Сярэдні ўраджай у *цнт.* | Валавы ўраджай у *цнт* | Кошт ўраджаю у руб. |
|---|---|---|---|---|---|
| | **Даходнасьць сенажацяй:** | | | | |
| 11 | Сена лугавое . . | 80 | 7 | 560 | 1.344 |
| 12 | Сена мурожнае . . | 20 | 2 | 400 | 1.200 |
| | | — | — | — | 2.544 р. |
| | **Даходнасьць ад гародніцтва:** | | | | |
| 13 | Буракі кармовыя . . | 5 | 320 | 1.600 | 2.880 |
| 14 | Морква . . . . . | 1 | 350 | 350 | 630 |
| 15 | Капуста . . . . | 0,3 | 100 | 33 | 99 |
| 16 | Гуркі . . . . . | 0,3 | 100 | — | 205 |
| 17 | Каноплі . . . . | 0,3 | 6 | 1 | 15 |
| 18 | Валакно . . . . | — | — | — | 100 |
| | | — | — | — | 3.929 р. |

| | |
|---|---|
| Улік кармовай саломы . . . . . . | 672 р. |
| Даходнасьць прадукцыйнай жывёлы і сьвінагадоўлі . | 2.435 р. 03 к. |
| Падсобныя прадпрыемствы . . . . | 180 р. |
| Ад іншых галін гаспадаркі . . . . | 20 р. |
| Усяго валавы прыбытак . . | 31.295 р. 03 к. |

5% на ўнесеную абагуленую маемасьць вылічваецца ад валавога ўраджаю палявых культур і даходнасьці прадукцыйнасьці жывёлы ад 31.095 р., а зн. 5% = 1.554 р. 95 к.

Ад валавога прыбытку аднімаецца насенны фонд—3.913 р. і таксама яго страхаваньне.

| | |
|---|---|
| На корм абагуленай жывёлы, прадугледжваючы разьвіцьцё сьвінагадоўлі . . . . . | 8.510 р. |
| Рамонт будынкаў і інвэнтара . . . . | 66 р. 26 к. |
| Проц. па крэдытам . . . . . . | 88 р. |
| Кантрактацыйных дагавароў . . . . | 1.041 р. |
| Канцэлярскія і інш. выдаткі . . . . | 124 р. 85 к. |
| Сельгас. падатак, страхоўка . . . . | 665 р. 20 к. |
| Насенны фонд з кулацкага жыта, які засеяны ў 1930 г. асеньняй пасеўн. плошчы . . . . | 264 р. |
| Крэдыты на 1930 г. і бягучыя крэдыты . . | 880 р. |
| **Усяго аднімаецца з валавога прыбытку** . | 1.707 р. 26 к. |

| | |
|---|---|
| Астаецца для вылічэньня ў фонды . . | 14.187 р. 77 к. |
| У неподзельны капітал 10% . . . | 1.418 р. 07 к. |
| У грамадзкі фонд 5% . . . . . | 709 р. 35 к. |
| 3% у фонд для працаздольных . . . | 425 р. 67 к. |
| Усяго ў фонды . . . . . | 2.553 р. 72 к. |

Застаецца для разьмеркаваньня паміж калгасьнікамі 11.634 р. 06 к.

Адпрацована з пачатку працы па 20 IX—30 году 8.600¾ працоўных дзён у пераводзе на першы разрад. Астаецца адпрацаваць для аканчэньня ўсіх прац 2.686 прац. дзён першарадных. А ўсяго працоўных адзінак першарадных 11.287¾.

Значыць 11.634 : 11.287¾ = прац. перш. 1 р. 3½ кап.

### Што атрымліваюць калгасьнікі за працу.

| Чарг. №№ | Прозьвішча | Колькі едакоў | Колькі непрацаздольных | Колькі адпрац. прац. адзінак. | Колькі яшчэ адпрацуецца да канца апэрац. году | Усяго працоўных адзінак | Прылічваецца: За працу | За непрацаздольнасьць | За ўнесеную маемасьць | Розьніца прыліч. за буд. | Усяго прыліч. атрымаць |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Карпучок А. С. | 6 | 2 | 382 | 135 | 538 | 556—83 | 13 | 62—50 | 9—50 | 642 |
| 2 | Майсюк У. Г. . | 5 | 2 | 106¾ | 110 | 216¾ | 223—56 | 13 | 29—50 | 1—30 | 267 |
| 3 | Цьвірко Я. Хв. . | 5 | — | 372 | 143 | 515 | 533—02 | — | 27 — | 12—12 | 572 |
| 4 | Яцкоўскі В. . . | 1 | — | 184 | 35 | 219 | 226—66 | — | 36—50 | — | 263 |

Праўленьне калгасу ўсіх непрацаздольных падзяляе на тры катэгорыі: дзеці ад 1 г. да 10, ад 10 да 14 год і ст. звыш 60 год. Першыя дзьве катэгорыі атрымліваюць:

1) Суму толькі колькі бацькі ўвесь час працавалі больш 50% усіх працоўных дзён, калі-ж менш як 25%, дык палову вызначаную. Для разьмеркаваньня паміж непрацаздольнымі маецца 425 р. 72 к., выходзіць на непрацаздольн. з 1 г. да 10 год 7 р. 50 к., звыш 10 да 14—15 р., для старэйшых 20 руб.

2) Для разьмеркаваньні паміж унесенай маемасьці маецца 1.554 р. 95 кап., сума ўнесенай маемасьці 1.540 р. = 1.554 р. 95 к. : 15.409 р. = = 10¼ к. на кожны ўнесены рубель.

3) Агульны сход пастанавіў, каб у разьмеркаваньні ўраджайнасьці прымаўся на ўвагу толькі працоўны дзень па тарыфу тым калгасьнікам, якія працавалі на будаўніцтве зьдзельна, а не па суме заработку; аплата па тарыфу згодна тарыфнай сеткі на будоўлі 1 р. 70 к., але некаторыя выраблялі па 2 р.—2 р. 50 к., значыць у разьмеркаваньне ўваходзіць толькі 1 р. 70 к., а рэшту яны атрымліваюць як розьніцу зарплаты.

## Як атрымліваюць калгасьнікі прадукцыі

| Чарг. №№ | Назва культур | Плошча ў гектарах | Выдаткі ў цэнтнэрах | | | | | Застаецца для разьмеркаваньня паміж калгасьнікамі |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Валавы ўрадж. у гект. | Належыць здаць | На корм абагул. жывёлы | Насенны фонд | Усяго выдат. | |
| 1 | Аўса . . | 61 | 920 | 92 | 365 | 60 | 517 | 403 |
| 2 | Ячменю . | 20 | 200 | $^5/_2$ | — | 25 | 30,5 | 169,5 |
| 3 | Бульба . . | 22 | 4.400 | 1.200 | 768 | 833,5 | 2.801,5 | 1.598,5 |
| 4 | Кораньпл. . | 6 | 1.950 | — | 1.218 | — | 1.218 | 732 |

**Колькі выходзіць на гаспадарку і колькі яны могуць атрымаць:**

| Чарг. №№ | Прозьвіш а і імя | Авёс | Ячмень | Бульба | Кораньплоды |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Карпучок А. С. . . . | 18,83 | 7,53 | 75,32 | 34,43 |
| 2 | Майсюк У. . . . . | 7,56 | 3,02 | 36,24 | 13,72 |
| 3 | Цьвірко Я. . . . . | 18,02 | 7,21 | 72,11 | 32,96 |
| 4 | Янкоўскі В. . . . . | 7,56 | 3,06 | 30,66 | 14,66 |

Агульны сход пастанавіў прадукцыю разьмеркаваць толькі па працоўным днёх.

Прыкладна, для разьмеркаваньня паміж калгасьнікамі маецца: аўса 403 цэнтн., 11.287 прац. дзён выходзіць на кожны працоўны дзень 3,5 кгр.

Карпучок адпрацаваў 538 прац. дзён, ён атрымаў 18 ц. 83 к., так і астатніх культур. Калгасьнікі выступілі супроць устанаўленьня норм пайкоў: яны заявілі, што нам по 18 ц. 83 кгр. досыць і больш не патрэбна і мы ўсе лішкі здамо дзяржаве.

Пасьля разьмеркаваньня калгасьнікі пераканаліся ў карысьці калектыўнай гаспадаркі. Ян Карпучок сказаў: „я ўсім раскажу аб перавагах калектыўнай формы гаспадаркі“. На агульным сходзе калгасьнікі пастанавілі папулярызаваць такое разьмеркаваньне ўраджайнасьці на бядняцка-серадняцкіх сходах.

Пасьля гэтага сходу калгас лічбамі свайго ўраджаю прадэманстраваў перад бядняцкімі масамі выгаднасьць калектыўнай гаспадаркі, ў выніку чаго цяпер падаюць шмат заяў аб прыняцьці ў калгас „Баявік“.

Б. Сімкін.

# ХТО АТРЫМАЎ ПРЭМІЮ

Камісія пры Белкалгасцэнтры разгледзела сьпіс калектыўных гаспадарак, якія поўнасьцю і ў тэрмін выканалі пляны загатовак. Ніжэй мы падаем сьпіс калгасаў, якія лепш за ўсе па БССР калгасы выпаўнілі загатоўкі і прэміраваны.

1. **Калгас „Цэльтна“** (Стройка), Ушацкага раёну—за сваячасовую здачу каапэрацыі хлебных лішкаў—**прэміруецца тэлефонізацыяй калгасу.** Гэты калгас выканаў плян загатовак па жыту на 100 працантаў, аўсу—200 працантаў, бульбы—500 працантаў.

2. **Калгас „Энгельс“,** Уваравіцкага раёну—за здачу збожжа на 200 працантаў, згодна пляну, бульбы 2 вагоны—**прэміруецца тэлефонізацыяй калгасу.**

3. **Калгас „Расьсьвет Пераможца“**, Жлобінскага раёну—за правышэньне выкананьня пляну па хлебазагатоўках, па бульбе і мясу—**прэміруецца тэлефонізацыяй калгасу.**

4. **Калгас імя Дзяржынскага**, Буда-Кашалёўскага раёну (польскі калгас)—за поўнае і сваячасовае выкананьне ўсіх загатовак—**прэміруецца тэлефонізацыяй калгасу.**

5. **Калгас „На варце“**, Бягомльскага раёну—за выкананьне і перавыкананьне плянаў загатовак—**прэміруецца радыёўстаноўкай.** Калгас „На варце“ здаў каапэрацыі яравых культур 1.000 пуд., бульбы—1.000 пуд., з маючайся яравой плошчы ў 100 *га*. Па жыту — загатоўкі выкананы на 200 працантаў.




Завод „Камунар“ мяркуе выпусьціць на 1-І 31 г. да 500 камбайнаў. На малюнку—апошняя зборка камбайна.

6. **Калгас „Чырвоны Астраў“,** Крупскага раёну, здаў дзяржаве з агульнай плошчы пахоці і сенажаці ў 270 *га*—400 пуд. бульбы і падрыхтавана к здачы 2.000 пуд., збожжа 500 пуд. і падрыхтавана к здачы 2.000 пуд. Калгасьнікі адмовіліся ўзяць авёс у лік зарплаты, а пастанавілі перадаць яго дзяржаве. **Калгас прэміраван радыё-ўстаноўкай.**

7. **Калгас „Прамень Сонца“**, Лагойскага раёну, за дадатковую здачу ўсіх таварных лішкаў—(жыта калгас здаў 21 цэнтнэр, калгасьнікі асобна здалі 37 цнт)—**прэміраван радыё-ўстаноўкай.**

8. **Калгас „Новае Жыцьцё“**, Тураўскага раёну, за сваячасовае выкананьне і перавыкананьне пляну загатовак па збожжы і бульбе—**прэміруецца радыё-ўстаноўкай**. Калгасам выканан плян па жыту на 140 проц., па бульбе на 170 процантаў.

Акрамя памянёных калгасаў таксама прадстаўлены к прэміі ніжэй-памянёныя калгасы, але пакуль што ня вызначаны яшчэ прэміі, у хуткім часе камісія вызначыць.

1. **Калгас „Пралетары“**, Вушацкага раёну, за выкананьне пляну загатовак: па жыту на 100 процантаў, аўсу—437 процантаў, ячменю—100 процантаў і па бульбе—на 480 процантаў.

2. **Калгасу імя Дзяржынскага**, Вушацкага раёну, за выкананьне пляну загатовак: па жыту—на 108 процантаў, аўсу—320 процантаў і па бульбе—на 500 процантаў.

3. **Калгас „Пабеда“**, Дрысенскага раёну, за выкананьне пляну загатовак: Калгас здаў 772 пуд. бульбы і падрыхтаваў к здачы 300 п., процант выкананьня пляну па бульбе—160. Акрамя таго, калгас „Пабеда“ здаў унепляну: 120 п. буракоў, 300 п. ільну, 100 пуд. аўсу, 50 пуд. гароху, 50 пуд. ячменю, і 10 пуд. вікі.

Уключаецца ў конкурс калгас „Чырвоны Маяк“, Грэскага раёну, за шэраг добрых прыкладаў па гаспадарцы і за здачу дзяржаве таварных лішкаў. С.




Завод „Каммунар“ выпусьціў 100 камбайнаў. На малюнку—зборка камбайна.

# „...СЬВІНЬНЯ НАМ ДАПАМОЖА НАЙБОЛЬШ ХУТКА ВЫРАШЫЦЬ МЯСНУЮ ПРАБЛЕМУ...“ (ЯКАЎЛЕЎ)

## К РАШАЮЧАМУ ШТУРМУ МЯСНЫХ ВЫШЫНЬ

XIII гадавіна Кастрычнікавай рэвалюцыі дэманструе грандыёзныя посьпехі рабочае клясы пад кіраўніцтвам партыі ў галіне прамысловасьці і соцыялістычнае рэканструкцыі сельскае гаспадаркі. Расьце бурна калгасны прыліў,—на базе суцэльнай калектывізацыі ліквідуецца кулацтва як кляса. Нябачныя міравыя рэкорды паказаны ў стварэньні савецкіх гаспадарак, апорных пунктаў сацыялістычнае рэканструкцыі ўсяе сельскай гаспадаркі. У асноўным вырашана збожжавая праблема. Ажыцьцяўленьне 5-годкі ў 4 гады, далейшая шпаркая індустрыялізацыя Савецкага Саюзу, рост рабочае клясы паставілі праблему мяса, як адну з асноўных праблем эканамічнае палітыкі партыі і ўраду.

Дзеля гэтае мэты створаны такія Ўсесаюзныя аб'яднаньні як „Скатавод“, „Сьвінавод“, „Аўцавод“, „Малочна-масьляны трэст“ і інш.

XIII Зьезд КП(б)Б і XVI Зьезд УсеКП(б) задачу разьвіцьця сацыялістычнае сьвінагадоўлі паставілі ў якасьці аднае з ударных задач. Створаны „Сьвінавод“ і аб'екты яго працы сьвінагадоўля пастаўлены на першае месца ў галоўны атрад вырашаючых гэту праблему. Дзьве якасьці сьвіньні,—яе хуткасьпеласьць і здольнасьць лепш іншае жывёлы аплачваць корм патрабавалі гэтага.

За зусім кароткі час свайго існаваньня ўжо дасягнуты некаторыя посьпехі. Паступова расьце лік савецкіх гаспадарак, якія спэцыялізуюцца ў гэтай галіне. З 55 гэта колькасьць павялічылася ўжо на 100 савецкіх гаспадарак. Пашыраецца пад імі зямельная тэрыторыя,—з 38.087 *га* тэрыторыя ўжо перасягнула 50.000 *га*, прычым пад савецкія гаспадаркі ўцягваюцца ўсё новыя і новыя зямельныя плошчы, якімі раней не карысталіся. Кошт усіх спэцыяльных будынкаў па сьвінагадоўлі ў прынятых саўгасах вылічаўся ў 99.000 руб., будаўнічая-ж праграма намячалася ў 8.636.021 руб., з якіх 6.856.475 руб. на сьвінагадоўлю.

Выкананьне гэтай гістарычнай будаўнічай праграмы пачалося і праводзіцца ў надзвычай цяжкіх умовах. Вельмі часта бяз тэхнічнага пэрсаналу,—з пачаткам пры поўным адсутнічаньні будаўнічых матар'ялаў, пры яўнай недаацэнцы, пагардлівых адносінах шэрагу працаўнікоў самых саўгасаў і раённых арганізацый. К дню Кастрычнікаўскіх сьвят толькі некаторыя саўгасы, рабочыя калектывы, якія найбольш упарта змагаліся за прамфінплян, прышлі з выкананьнем першых будынкаў. К такім адносяцца ў першую чаргу саўгасы: Шыкатовічы, Замошша, Бапэвічы, Боркі, Бабінічы, Несята, Зарэч'е, Пачаевічы, Негарэлае, Носавічы, Некрашы і некаторыя іншыя.

Ужо забрана з карантынаў больш 10.000 сьвінаматак. Саўгасы Шыкатовічы, Горкі-Апчак, Усьце, Рыме, Бабінічы, Харомцы, Сьвіслач,

Бачэйкава, Лудчыцы, Старая Беліца, Блонь, Райцы, Івань і інш. у асноўным закончылі, а некаторыя і перавыканалі плян укамплектаваньня сьвінаматкамі.

Саўгасы ўжо ў сыстэме „Сьвінавода“ правялі бальшавіцкую сельска-гаспадарчую кампанію 1930 г. Але ў выкананьні грандыёзьнейшай праграмы ёсьць буйныя гаспадарчыя прарывы. Асноўным тупіком пагрозы зрыву—зьяўляецца будаўнічая праграма Да гэтага часу замест 57.000 сьвінамесц пабудавана толькі каля 2.000 і будуецца толькі 9.882 месцы матачнікаў і 8 880 адкормачнікаў. Будаўніцтва ўпёрлася па-ранейшаму ў востры недахоп людзей, непадвоз на месца пабудовы матар'ялаў, недахоп піламатар'ялаў, гонты, цьвікоў і інш.

Праграма ўкамплектаваньня сьвінаматкамі, калі лічыць і забраніраваныя для імпарту, яшчэ ня выканана. Яшчэ да гэтае пары ў шэрагу саўгасаў захаваліся антысьвінаводныя настроі, не ліквідаваны эпізотыі і дрэнныя ўмовы ўтрыманьня, яшчэ ня зьнішчаны, у сувязі з гэтымі прычынамі і, па асобных выпадках, яўна шкодніцкая практыка аддзяленьняў Белмяса па ўкамплектаваньню сьвінаматкамі, падзёж. Саўгасы „Сьвінавода“ ў БССР яшчэ не забясьпечаны патрэбнай тэрыторыяй, каб мець мажлівасьць сваячасова выконваць дырэктывы Ураду.

Па ранейшаму застаецца надзвычайна катастрафічным становішча з кадрамі. Досыць прывесьці лічбы на 1931 год, з якіх відаць, што нехапае 52 зоотэхнікаў, 50 аграномаў, 79 тэхнікаў-сьвінаводаў, 26 урачоў, старэйшых сьвінараў—359, пры дрэнным укамплектаваньні рабочымі кадрамі, поўнай адсутнасьці ніжэйшых тэхнічных кадраў да гэтае пары, каб зразумець усю гастрату гэтага пытаньня. У практыцы працы шмат якіх савецкіх гаспадарак, яшчэ існуе недаацэнка сацыялістычнае сьвінагадоўлі, няма сапраўды бальшавіцкіх тэмпаў,—на дарозе іх шмат дзе яшчэ ляжыць апартуністычная чарапаха спасылкі на аб'ектыўныя прычыны, немажлівасьць выкананьня прынятых тэмпаў.

Адозва ЦК УсеКП да ўсіх партыйных, гаспадарчых і профсаюзных органаў зусім недастаткова выкарыстана ў практычнай працы па ліквідацыі маючыхся прарываў.

Праграма „Сьвінавода“ можа быць выканана толькі надзвычайнымі, сапраўды штурмавымі тэмпамі работы. Толькі вызваліўшыся ад недаацэнкі ролі сацыялістычнае сьвінагадоўлі, пры разуменьні, што тыя хто незабясьпечваюць выкананьня задач па арганізацыі мясных фабрык будуць разглядацца як зрыўшчыкі мяснога снабжэньня рабочае клясы, забясьпечыў сапраўды шырокае сацыялістычнае спаборніцтва і ўдарніцкі рух, мажліва справіцца з гэтай праграмай.

Толькі праводзімы месячнік сьвінагадоўлі, перад якім былі пастаўлены буйнейшыя задачы—даў зрух у шэрагу саўгасаў, паказаў прыклады сапраўды бальшавіцкае ўдарнае работы (Вялень Сінча, Боркі і інш.).

Усе сілы патрэбна арганізаваць на забясьпечаньне сапраўды бальшавіцкага штурму, на ліквідацыю маючыхся прарываў. На будаўніцтве па-ранейшаму павінна быць сканцэнтравана, як на аднэй з цэнтральных задач, асноўная ўвага рабочых калектываў. Будаўнічая праграма ні якому пераглядзу не падлягае і к 15-му сьнежня павінна быць поўнасьцю выканана. Сюды павінны ўваходзіць задачы ня толькі колькаснага выкананьня, але правядзеньне будаўніцтва лепшай якасьці і больш танна.

Прагарма ўкамплектаваньня сьвінаматкамі павінна быць выканана ўсімі савецкімі гаспадаркамі да 1 XII. Павінны быць спынены шкодніцкія вынікі, да якіх прыводзіць антысьвінаводныя настроі, невыкананьне зоовэтмінімуму, наяўнасьць эпізоотыі, яўна нецярпімая практыка ўкамплектаваньня сьвінаматкамі, пры якой „Сьвінаводу" здаваліся парасят заместы здаровых—хворыя, без папярэдніх прывівак, што прыводзіла да масавага падзежу. Барацьба з эпізоотыямі, за зоовэтмінімум застаецца і надалей аднэй з цэнтральных задач. Саўгасам „Сьвінавода" патрэбна падваеньне пахатнай тэрыторыі. Патрэбна безадкладнае аканчаньне зябі, разгортваньне другіх прац па падрыхтоўцы к вясеньняй сельскагаспадарчай праграме.

Выключнае месца павінна быць адведзена арганізацыі кадраў і працы ў саўгасах. Штаты саўгасаў павінны быць безадкладна ўкамплектаваны па галіне сьвінагадоўлі, павінны быць вылучаны сапраўды лепшыя, найбольш здольныя і падрыхтаваныя працаўнікі. Асноўныя масы фондаў прэміраваньня павінны быць пераключаны на сьвінагадоўлю. Ува ўсіх савецкіх гаспадарках павінна быць разгорнута сыстэма мерапрыемстваў вытворчай адукацыі (курсы, экскурсіі, канфэрэнцыі).

Посьпех усяе гэтае работы будзе залежаць ад таго, на колькі сапраўды, на справе, вакол усіх гэтых задач будзе разгорнута сацыялістычнае спаборніцтва, ударніцкі рух, сустрэчныя прамфінпляны, грамадзкі буксір; на колькі хутка будзе раздаўлена апартуністычнае нявер'е, якое заўсёды спасылаецца на цяжкасьці, — аб'ектыўныя ўмовы і г. д.

**Аўчыньнікаў.**



Красыдарская супроцьчумная біофабрыка вырабляе спэцыяльную сыроватку супроць чумы сьвіней. На малюнку—момант узяцьця крыві з сьвіньні

# ЯК УТРЫМОЎВАЦЬ СЬВІНЕЙ У КАЛГАСАХ І САЎГАСАХ

Вэтэрынарным кіраўніцтвам НКЗ СССР выпрацаваны і зацьверджаны правілы па карміленьню, догляду і ўтрыманьню сьвіней. Правілы гэтыя павінны быць шырока вядомы і скарыстаны ўсімі нашымі сьвінагадоўчымі калгасамі і саўгасамі ў якасьці кіруючага і інструкцыйнага матар'ялу.

### Як трэба карміць сьвіней.

1) Карміленьне халастых супаросных матак, хракаў і адкормачных падсьвінкаў вытвараецца 2 разы ў дзень. Падсосныя маткі і падсьвінкі да 6 месяцаў атрымоўваюць корм 3 разы ў дзень. Парасяты ў першы месяц пасьля ад'ёму атрымоўваюць корм 4—5 разоў у дзень.

2) Колькасьць корму ў дачы вылічваецца па нормах у адпаведнасьці з жывой вагой і прызначэньнем жывёлы: племяная, бэконная, сальная, а таксама і па ўзросту. Пры задачы корму захоўваюцца наступныя правілы: корм застаецца ў жывёлы на працягу 20—30 хвілін; пасьля чаго рэштка, калі яна застаецца, прыбіраецца. Застаўленьне кармушак з рэшткамі корму на працягу ўсяго дню або на ноч, недапусьціма.

3) Зернавы корм і макуха абавязкова задаюцца ў дробленым альбо размолатым відзе, бульба даецца гатаванаю, караньплоды скармліваюцца сырымі, але непасрэдна рэжуцца на караньрэзках. Пры скармліваньні адкідаў сталовых і рэзьняў абавязкова трэба добрае праварваньне корму. Вараны корм задаецца пасьля ахаладжваньня яго. Сена даецца ў відзе рэзкі, непасрэдна абвараным у мешаніне з мучністым кормам альбо паасобна. Усе кармы задаюцца ў выглядзе густога месіва. Жыдкія баўтухі дапусьцімы толькі для парасят у першы месяц пасьля ад'ёму.

4) Паеньне робіцца да задачы корму. Паіць сьвіней трэба вадою, маючай тэмпэратуру сьвінарніка. Стаячая і студзёная вада для паеньня няпрыгодна.

5) У кармовах дачах усе сьвіньні павінны атрымоўваць прыбаўку мінэральных соляй (касьцяной мукі, залы, вапеннай мукі) і драўлянага вугалю.

6) Мыцьцё кармушак утвараецца штодзённа гарачай вадой і адзін раз у месяц вапенным малаком.

### Як даглядаць за сьвіньнямі

1) Чыстка сьвіней у палепшаных гаспадарках утвараецца штодзенна. У летні час павінна практыкавацца купаньне, а за немажлівасьцю ажыцьцявіць яго, трэба мыць сьвіней праз кожныя 10 дзён.

2) Уся племяная жывёла, незалежна ад узросту, у добрае надвор'е штодзенна выпускаецца на прагулку.

3) Пры зьяўленьні вошай сьвіньні абмываюцца адварам тытуню (1 кіло тытуню на 2 вядры вады), альбо змазваюцца газаю з маслам (1 частка газы на 9 частак масла), драўляныя перагародкі і ўвесь станок старанна дэзынфэцыруюцца.

4) Пры неправільным адрастаньні капытнага рогу неабходна ўтвараць абрэзку капытоў адзін раз у 2—3 м-цы.

5) Усе работы ў памяшканьнях са сьвіньнямі павінны ўтварацца з захоўваньнем мажлівай цішыні.

### Утрыманьне сьвіней

1) Колькасьць племяных сьвіней, знаходзячыхся ў адным памяшканьні, не павінна правышаць 60 галоў, а адкормачных падсьвінкаў—ня больш 200 галоў. Усе сьвінарнікі, маючыя большую колькасьць сьвіней, павінны быць разьдзелены глухімі сьценкамі на падзелы паказанага разьмеру.

2) Узрослыя хракі ўтрымоўваюцца па аднаму ў станку, халастыя маткі ўтрымоўваюцца па 10 галоў у адным станку. Перад апаросам за 2 тыдні матка пераводзіцца ў паасобны станок, дзе і трымаецца да моманту ад'ёму парасят.

3) Улетку племяныя сьвіньні і ўсе парасяты абавязкова выводзяцца на пашу і выгулы з летнімі памяшканьнямі (для гарачага і дажджлівага надвор'я) і ўтрымоўваюцца паасобку па групам: матак, сьвінак, хракаў, пры чым больш 100 галоў у кожнай групе на пашы трымаць ня варта.

4) Чыстка станкоў ад гною ўтвараецца перад задачай корму ў племяных сьвінарніках два разы на дзень, у адкормачных—адзін раз перад вячэрняй дачай корму.

5) Подсьцілка для сьвіней мяняецца пры ўборцы гною. Подсьцілка даецца ў колькасьці $^1/_2$ кгр. на галаву пры сумесным утрыманьні і $1^1/_2$—2 кгр. на матку і храка пры адзіналічным утрыманьні.

6) Маючаяся ў сьвінарніку вэнтыляцыя павінна дзейнічаць штодзенна. У цёплы час году вэнтыляцыя павінна быць пасілена яшчэ адчыненымі дзьвярамі і вокнамі, а ўзімку—топкаю пячэй пры адчыненых фортках.

### Вэтсанітарныя мерапрыемствы

1) Два разы ў год—вясною і ўвосень—утвараецца старанная ачыстка ўсіх сьвінарнікаў з прамыўкаю шчолакам і пабелкаю вапнаю сьцен і перагародак і абмываньнем 5% растворам неачышчанай карболаўкі падлогі і сьцен.

2) Усе ўноў прыбываючыя ў гаспадарку сьвіньні трымаюцца 3 тыдні ў карантынным памяшканьні, якое павінна знаходзіцца паасобку і ў баку ад іншых памяшканьняў для сьвіней.

3) Захварэўшыя сьвіньні безадкладна аддзяляюцца ад здаровых і пераводзяцца ў ізалятар да поўнага іх выздараўленьня згодна паказаньня вэтнадзору.

4) Трупы прапаўшых сьвіней безадкладна прыбіраюцца з станкоў і накіроўваюцца ў асобна ізаляванае месца, дзе і ўскрываюцца вэтурачом.

5) Станкі, з якіх удалены хворыя або прапаўшыя сьвіньні, аслабаняюцца ад іншых сьвіней, дэзынфэцыруюцца і запаўняюцца новымі сьвіньнямі толькі па паказаньню вэтнадзору.

6) У сьвінарніках, недобрабытных па чырвонцы і чуме сьвіней, адпаведныя прышчэпкі зьяўляюцца абавязковымі. Усім сьвіньням данай гаспадаркі, па заключэньню вэтнадзора, могуць быць зроблены ахоўваючыя прышчэпкі ў найбольш выгадны час для гаспадаркі.

Вэтэрынарны доктар **М. Жарын.**

# БЕРАЖЭЦЕ ЛЕС

## ЛЕС, ЯК СЫРЦОВАЯ БАЗА ІНДУСТРЫЯЛІЗАЦЫІ КРАІНЫ

Перажываемыя намі гады, ёсьць гады магутнага ўздыму ўсіх галін народнае гаспадаркі і індустрыялізацыі. У гэтай справе галоўную ролю грае буйная прамысловасьць.

Тав. Ленін яшчэ ў 1921 годзе казаў, што „адзінай матар'яльнай асновай сацыялізму можа быць буйная машынная прамысловасьць, якая можа рэарганізаваць сельскую гаспадарку“ і далей—„прад намі стаіць вялікая задача—пабудаваць у нашай краіне фундамэнт сацыялістычнае экономікі і дабіцца таго, каб гаспадарчая база з дробнай сялянскай перайшла ў буйную прамысловасьць“.

Пяцігадовы плян і пройдзеныя два гады пляну паказваюць нашы дасягненьні ў гэтым напрамку.

Да лесу, як да распаўсюджанага матар'ялу, як да сырцовай базы ўсіх абсалютна галін нашае народнае гаспадаркі ў справе індустрыялізацыі і сацыялістычнае перабудовы гаспадаркі—прад'яўляюцца такім чынам самыя важныя і адказныя патрабаваньні. У кароткіх рысах гэта наступнае: даць для ўсіх відаў будаўніцтва ўсю неабходную колькасьць драўніны як у выглядзе піламатар'ялаў і круглага лесу, так і ў выглядзе гатовых штандартных дэталяў (вакон, дзьвярэй і г. д.). Забясьпечыць усе ўзрастаючыя патрэбнасьці драўніны ў вытворчасьцях будуючых сельска-гаспадарчыя машыны, патрабляючых тару, для транспарту і г. д.

Забясьпечыць усё ўзрастаючыя культурныя патрэбы ў паперы, мэблі, музыкальных інструмэнтах, вырабу хэмічных прадуктаў, а таксама ўсіх рэчаў з дрэва, якія даюць палепшаньне і ўзьняцьце гаспадаркі. Абслужыць абарону краіны неабходнымі вырабамі. На лес, які зьяўляецца важнейшым прадметам экспорту кладзецца вялікая задача.

Неабходна ўказаць яшчэ, што на лясным прадукце ляжыць задача раней за ўсіх даць найбольшы процант зьніжэньня сабекошту. Ад гэтага зьніжэньня сабекошту залежыць зьніжэньне сабекошту ўва ўсіх астатніх галінах гаспадаркі.

Зусім пагэтаму зразумела, што нават самае малае невыкананьне пляну па лясной гаспадарцы, шкодна адбіваецца на ўсёй народнай гаспадарцы і яе індустрыялізацыі.

Якую-ж базу для індустрыялізацыі нашае старонкі прадстаўляе з сябе лес і якім чынам ужо зараз лясны прадукт дапамагае справе перабудовы нашае гаспадаркі на сацыялістычны лад.

Па колькасьці нашы лясы стаяць на першым месцы ва ўсім сьвеце, пры гэтым нашыя лясы найбольш каштоўныя па сваёй прадукцыйнасьці. Але па выкарыстоўваньні, мы амаль на апошнім месцы. Тут у нас вельмі вялікія магчымасьці, пры дасягненьні якіх у нас ва многа раз павялічыцца і замацуецца лес, як сырцовая база індустрыялізацыі краіны. Той гадавы прырост, які нам даюць лясы, бяз якога то ні было з нашага боку палепшаньня яго, мы выкарыстоўваем яго толькі ў сярэднім 40 проц., а ў некаторых раёнах і таго менш. Вялікі процант глуму застаецца ў лесе. Калі, напрыклад, у Нямеччыне гектар лесу дае 29 руб. 27 кап. даходу, дык у нас у сярэднім 57 кап. Праўда,

у нас некаторыя дачы даюць значна больш, так Бранская дае да 34 руб., але гэта толькі пацьвярджае тое, што і ў нас такі даход магчымы. Мы ўсё карыстаньне праводзім у адным і тым-жа месцы і, разам з гэтым—застаўляем аграмадныя лясы зусім некранутымі, куды ні разу не заходзіць чалавечая нага. Нават у нас у Беларусі, толькі 93 проц. эксплёатуецца, а ў Сібіры 4 проц., на Далёкім Усходзе 5 проц. Як мы мала скарыстоўваем свае лясы відаць хоць і з таго, што калі прыняць па колькасьці лясоў СССР за 100 проц., дык у Фінляндыі будзе 8 проц., у Польшчы 2 проц., а па экспарту, калі СССР узяць за 100 проц., дык у Фінляндыі будзе 235 проц., у Польшчы 259 проц. Японцы вывезьлі з аднаго паўднёвага Сахаліну столькі лесу, сколькі экспартуе ўвесь СССР.

На лесасеках шмат глуміцца лесу, а колькі гіне ад нерацыянальнай распрацоўкі, ад недагляду, ад нашае тэхнічнае адсталасьці, ад пажараў. Адзін лік лясных пажараў кожны год дасягае да 15.000.

Капіталісты Форд мае і рацыяналізатарскую дрэваапрацоўчую прамысловасьць. У яго пераапрацоўка астаткаў, пасьля вырабу патрэбных асартымэнтаў—дае на тону драўніны 55 клг уксусна-кіслай вапны, 277 літраў этылевага сьпіргу, 68 літраў дзегцю, 17 куб. мэтр. гаручага газу і 250 клг вуглю. Мэханізацыя на яго лесарасправоўках захоўвае шмат лесу і паскарае ход распрацовак у 20 разоў.

Якім-жа чынам у нас праводзіцца распрацоўка лесу, выкарыстоўваньне адбросаў вядома.

А ў нас-жа ёсьць значна большыя магчымасьці. Пры ўсенародным уладаньні леса, пры магчымасьці разгарнуць найвышэйшыя ў сьвеце тэмпы праз сацыялістычную арганізацыю працы, пры той магутнасьці пралетарыяту, які зараз адольвае навуку і тэхніку, што могуць значыць дасягненьні Форда? Нашыя тэмпы разьвіцьця апошніх год паказваюць такія нябачаныя ніколі для Форда размахі росту, што не застаўляюць ніякога сумленьня на гэты конт нават у скэптыкаў.

Па пяцігадоваму пляну намечаны яшчэ большыя тэмпы, зусім рэальна выходзячыя з ужо пройдзенага. Валавая прадукцыя лясной прамысловасьці ў процантных адносінах будзе расьці нават хутчэй росту ўсяе нашай прамысловасьці, ідучай папераддзі прамысловасьцяў усіх краін.

Таварная прадукцыя павялічыцца з 361 млн руб. да 2 млд. 881 млн р., ці ў 8 разоў. Загатоўка лесу павялічыцца ў 6 раз, дроў у $3^1/_2$ разы, па піламатар'ялам мы будзем мець узрост на 588 проц., па фанеры 497 проц., мэблі 1.218 проц., тары 545 проц. і г. д. За гэтыя гады павінны будуць у нас разгарнуцца новыя вытворчасьці з драўніны і з іншых прадуктаў, які дае лес.

У прыватнасьці, у нас у Беларусі адчыняюцца новыя фабрыкі, камбінаты, і пашыраюцца зараз існуючыя Адчыняюцца заводы вытвару будаўнічых дэталяй і стандартных частак будаўніцтва. Па хэмічнай апрацоўцы дрэва цэлая сетка экстракцыйных, каніфольна-скіпідарных і цэлюлёзных вытворчасьцяй. К канцу пяцігодкі ў БССР будуць аб'яднаны 25 розных відаў вытворчасьці на ба е ляснога продукту. Такія камбінаты, як Бабруйскі, Гомельскі, Барысаўскі і Мазырскі будуць мець у сваім складзе ня менш 6—7 цэхаў. Гэта толькі ў БССР, а па ўсяму Саюзу мы будзем мець такі самы аграмадны рост, які сьведчыць, як шпарка лясная гаспадарка і прамысловасьць пачынае павялічваць свай удзел у індустрыялізацыі краіны, як вырабам з лесу

такой грамаднай і featuring рознастайнай у сваёй масе колькасьці прадуктаў забясьпечваецца і замацоўваецца індустрыялізацыя і перабудова ўсяе гаспадаркі на новы лад, як гэта вучыў нас т. Ленін.

Яшчэ неабходна ўказаць на тое, што сама лясная гаспадарка і лясная прамысловасьць сама па сабе індустрыялізуецца. Аб'яднаньне зараз у адным цэнтры як вытворчасьці самае драўніны, так і яе пераробу, вялікія капітальныя ўкладаньні ў лясную гаспадарку, навукова-тэхнічны ўздым і павялічэньне мэтадаў сацыялістычнае працы, робіць лясную вытворчасьць яшчэ больш магутным фактарам індустрыялізацыі краіны. З базы для індустрыялізацыі, яна робіцца актыўнай сілай барацьбы за індустрыялізацыю. Вялікі рост рабочых у лясной вытворчасьці і мэханізацыя яе робяць лясную гаспадарку—фабрыкай драўніны і ўключае яе ў агульнае будаўніцтва новага жыцьця.

**І. Л. Файнберг.**

# АБ АХОВЕ ЛЯСОЎ

Пытаньне аб ахове лясоў мае вялікае эканамічнае значэньне.

Навука аб лесазнаўстве дае тлумачэньне, што лес ёсьць ня простае аб'яднаньне дрэў, а такое расьліннае згуртаваньне, якое стварае ўплыў як на рост паасобных дрэў, так і на займаемую ім глебу і вакольную атмасфэру. Гэта значыць, што паасобныя дрэвы, ці нязначнае іх згуртаваньне, не маючыя паказанага ўплыву, нельга лічыць лесам.

Толькі ў густым лесе, г. зн. у сацыяльным згуртаваньні, вырастаюць высокакаштоўныя хвоёвыя дрэвы, як, напрыклад, наша Барысаўская хвоя, якія ачышчаюцца ад галін да самай вяршыні, ці наш Васілевіцкі дуб, з якога нарыхтоўваюцца экспартныя фанерныя кражы. А на прасторы ў адзіноце—дрэва вырастае сукаватае, прыдатнае толькі на дровы.

З гэтага можна зрабіць вывад, што наогул такая дзейнасьць чалавека, якая парушае прыродную структуру лесу, яго сацыяльнае згуртаваньне—зьяўляецца шкоднай.

Усе пашкоджаньні лесу, у залежнасьці ад іх пахаджэньня, можна разьбіць на 3 галоўныя групы: 1) ад навальных сіл прыроды, 2) натуральна-біалёгічнага паходжаньня, якія наносяцца шкоднікамі-шасьціножкамі—энтамалёгічныя пашкоджаньні і грыбковымі хваробамі дрэва—фітапаталегічныя пашкоджаньні, птушкамі і зьвяркамі і 3) прамаю і штучнаю дзейнасьцю чалавека. Да першай групы адносяцца:

1) пашкоджаньні ад марозаў: а) марозабоіны, г. зн. шчыліны на ствалах, галоўным чынам, лісьцяных парод, якія ці выклікаюць грыбковую хваробу дрэва, загніваньне драўніны, ці хоць і зарастаюць, але дэфармуюць ствол і пераводзяць яго з дзелавога ў дравяны; б) адмярзаньне верхавінных парастаў у елцы, дубу, ясеню і інш., што адбіваецца на правільным фармаваньні ствала і яго гадзічным прыросьце; в) вымярзаньне дрэўных усходаў, асабліва на культурах і ў гадавальніках.

2) Сонечныя апёкі дрэўных усходаў, хвоі і кары.

3) Моцныя вятры, якія ламаюць дрэвы (буралом) і вываравочваюць іх з каранямі (ветравал).

4) Сьнегавалы, якія ламаюць ці гнуць маладняк, асабліва сасновы.

5) Вясеньнія паводкі, якія наогул маюць дрэнны ўплыў на прырост дрэў.

6) Ледаход, які наносіць раны на ствалох дрэў, якія растуць на берагох рэк.

7) Маланка, якая ці расшчапляе ствол, ці наносіць яму шчыліны.

Галоўную групу пашкоджаньняў складаюць — пашкоджаньні ад шасьціножак і грыбковых хвароб.

Да гэтай групы пашкоджаньняў можна зрабіць агульную заўвагу, што як шкодныя шасьціножкі, так і грыбныя хваробы нападаюць на паасобныя дрэвы і дрэвастаны, аслабленыя пажарамі, параненыя, хворыя і засьмечаныя. Некаторыя віды асабліва шкодных шасьціножак нападаюць на дрэвастаны, якія былі раней пашкоджаны менш шкоднымі відамі.

Энтамалёгічных шкоднік па характару самаго пашкоджаньня ў сваю чаргу можна разьбіць на некалькі груп: а) такія, якія зьядаюць лісьце і хвою, як, напрыклад—вусеніцы манашэнкі, шоўкапрадаў, непарнага шоўкапрада і інш. Пры масавым распаўсюджаньні, гэтыя шкоднікі зьнішчаюць тысячы *га* здаровых дрэвастанаў.

Улетку 1929 года ў Магілеўскай акрузе вусеніцы непарнага шоўкапрада зьнішчылі цэлую дачу лесу мясцовага значэньня і, за недахопам пажывы, распаўсюдзіліся на сельска-гаспадарчыя расьліны.

б) Якія псуюць кару, дуб і мязгу на карэньнях, ствалах, верхавінных паросткаў, почкі, шышкі, а вусеніца некаторых відаў і хвою і лісьце, як, напрыклад, малы сасновы садоўнік, вялікі сасновы стрыгун, сасновы і яловы малы і вялікі лубаеды, забалоньнікі, караед гравер, караед тыпаграф, поліграф, сьценаграф, караед крошка, карняжылы і шмат іншых.

в) Якія псуюць самую драўніну няжывых дрэў, з якіх не зьнята кара, як, напрыклад: усачы, сасновая златка, дубовы дрэвасек, дрэўненьнікі і шмат іншых.

г) Якія пашкаджаюць выхавальнікі і культуры, як, напрыклад—лярва хрушча. На Выстаўцы ў лясным павільёне можна бачыць калекцыю некаторых з відаў іх, а таксама ўзоры пашкоджаньня лубу, кары і драўніны з адбіткамі іх матчыных ходаў і летных дзірачак, ад якіх некаторыя з іх і атрымалі сваё кваліфікаваныя прозьвішчы.

Пашкодшаньне энтамалёгічнымі шкоднікамі зялёных частак расьліны мязгі выклікае зьмяншэньне прыросту, а пры моцным пашкоджаньні—усыханьне, сухастой; пашкоджаньне верхавінных парасткаў—дэфармацыю ствала, якая ператварае дзелавое дрэва ў дравяное.

Пашкоджаньне драўніны таксама ператварае яе ў дрывяную, ці ў драўніну ніжэйшага гатунку.

Есьць шкоднікі, якія псуюць нават драўляныя вырабы: мэблю, хатнія сьцены, як, напр. шашаль.

Яшчэ большую шкоду наносяць лесу грыбковыя хваробы, якія сваімі міцэліямі зьнішчаюць моц драўніны, выклікаюць гніль і пераводзяць яе ў нягодную для карыстаньня.

Грыбныя хваробы дрэў распаўсюджваюцца праз зароднікі пладаносцаў-палюпарусаў, якія звычайна называюць губкамі і якіх вы можаце бачыць на выстаўленных экспанатах. Зароднікі ці пыльца грыбковых хвароб праз паветра ці праз глебу пасяляюцца на тых дрэвах, на якіх папсута кара, ці паранены драўніна і карэньні.

Да трэцяй групы пашкоджаньняў адносяцца такія, якія наносяцца злым умыслам чалавека, ці ўкосна яго дзейнасьцю. Да першай катэгорыі адносяцца ўсялякія самаўласныя высечкі, зьбіраньне лык, ла-

маньне маладых дрэў, надсечкі, зарубкі для атрыманьня соку і інш., г. зн. такія дзеяньні, праз якія дрэвы цалкам зьнішчаюцца ці калечацца.

Чаму самаўласныя парубкі лічацца шкоднымі? Таму, што ад самаўласных парубак ня толькі траціцца дзяржаўны прыбытак, але і парушаецца сацыяльнае згуртаваньне лесу, якое патрэбна для вырашчваньня дзелавой драўніны. Каб не парушыць сацыяльнага згуртаваньня лесу, ён павінен сячыся ў плянавым парадку, каб пасьля высечкі ў хуткім часе магчыма аднавіць яго.

Самаўласныя высечкі складалі: у 1924/25 г.—406 т. к. м. на суму 1873 т. рублёў, у 1925/26 г.—246 т. к. м. на суму 1384 т. рублёў, у 1926/27—258 т. к. м. на суму 1253 т. руб., у 1927/28 г.—344 т. к. м. на суму 1722 т. руб. і ў 1928/29 г.—211 т. к. м. на суму 1381 руб.

Можна сказаць, што да гэтага часу страта ад самаўласных высечак складала 10% прыбытку ад гадзічнай лесасекі. Да ўкосных пашкоджаньняў, якія наносяцца лесу дзейнасьцю чалавека, адносяцца: пажары, паша жывёлы, пракладаньне дарог у лесе, зьбіраньне лісьця і падсьцілкі, падвешваньне вульляў і інш.

У 1924/25 г. пажарамі зьнішчана 41 т. к. м. драўніны на плошчы 2 т. *га*, у 1924/25 г.— 328 т. к. м. на 31 т. *га*, у 1925/26 г. 111 т. к. м. на 4 т. *га*, у 1926/27 г.—7 т. к. м. на 1 т. *га*, у 1927/28 г.—5 т. к. м. на 1 т. *га* і ў 1928/29 г.—24 т. к. м. на 6 т. *га*.

Апрача зьнішчанага лесу, пажары аслабляюць рост дрэвастанаў, на якія нападаюць энтамалёгічныя шкоднікі.

Паша жывёлы на высечках шкодна адбіваецца на аднаўленьні леса; на культурах і ў маладнякох жывёла ломіць і скусвае маладыя дрэўцы, якія дэфармуюцца і адстаюць у росьце. Наогул жывёла і чалавек трамбуюць глебу, што рабіць уплыў на зьмяншэньне прыросту. Пракладаньне новых шляхоў і паша жывёлы ў лесе пашкаджаюць каранёвую сыстэму дрэў, што ў сваю чаргу выклікае вапенную гніль. Зьбіраньне лісьцяў і падсьцілу зьмяншае ўраджайнасьць глебы і прырост лесу.

Як можна вылічыць тыя эканамічныя значэньні ўсіх пералічаных пашкоджаньняў, апрача самаўласных высечак і пажараў, тыя страты, якія церпіць ад іх лясная гаспадарка? У гаспадарцы інтэнсыўнай усе дрэвы на лесасецы павінны быць дзелавой якасьці, г. зн. нармальная колькасьць дрывяной драўніны не павінна правышаць 10% для хваёвых парод і 40% для лісьцяных парод. Між тым па вучоту лесасекі БССР, дзелавая драўніна хваёвых парод складае толькі 65% ад агульнага запасу, а лісьцяных парод амаль толькі 10%. Такім чынам, 25% дзелавой драўніны хваёвых парод і 50%—лісьцяных парод пераводзіцца ў дрывяную, і лясная гаспадарка траціць на гэтым амаль палову прыбытку ад лесу, калі-б ён ня быў пашкоджаным.

Такое павялічэньне дрывяной драўніны выклікаецца галоўным чынам усімі пералічанымі шкоднікамі, апрача самаўласных высечак і пажараў, якія зьмяншаюць прыбытак ад лесу на 10—12%.

Па дадзеным справаздачы дэпартамэнту земляробства Пазш., грыбковыя хваробы і шкодныя шасьціножкі прычыняюць сельскай і ляснай гаспадарцы страту каля 25% валавога прыбытку.

Па папярэднім падлікам лесаэнтамалёгічнай экспэдыцыі, якая працавала ў гэтым годзе ў лясох БССР, эканамічна шкодныя шасьціножкі, як усачы, караеды, хрушч і інш., прычыняюць страту ў кожным лясьніцтве ў сярэднім на 50 тыс. рублёў.

Як-жа змагацца з усімі пералічанымі шкоднікамі, каб зьменшыць прычыняемыя імі лясной гаспадарцы страты?

Супроць шкоднай дзейнасьці чалавека змагаецца ўрад, які законам аб ахове лясоў забараняе ўсе пералічаныя пашкоджаньні, якія наносяцца лесу чалавекам, і карае іх накладаньнем штрафу па асобнай таксе страт і г. д.

Самаўласныя высечкі і паша жывёлы выклікаюцца ня толькі злым намерам чалавека, але і эканамічнымі падставамі: прыватна капіталістычнай сыстэмай сельскае гаспадаркі, пры якой прыватна-капіталістычнае набыцьцё зьяўлялася стымулам для самаўласных парубак і пашы жывёлы.

Па папярэднім дадзеным Кіраўніцтва Лясамі, у 1929/30 г., калі частка сельскае гаспадаркі перайшла на сацыялістычную форму, колькасьць самаўласных парубак зьменшылася амаль што на палову. І можна лічыць, што з пераходам усяе сельскае гаспадаркі на сацыялістычную сыстэму, самаўласныя парубкі і паша жывёлы адыйдуць у вобласьць гісторыі.

З іншымі шкоднымі падзеямі чалавека трэба змагацца грамадзкай сьвядомасьцю. Неабходна памятаць, што лес і кожнае паасобнае дрэва ў ім—жывы арганізм, і што кожная нанесенная ім рана і пашкоджаньне выклікае хваробу іх, як і ў чалавека.

З фітапаталёгічнымі хваробамі можна змагацца праз догляд за лесам, сваячасова высякаючы хворыя і фаутныя дрэвы, каб ад іх не заражаліся здаровыя. Найлепшым сродкам для змаганьня з грыбковымі хваробамі і энтамалёгічнымі шкоднікамі—трымаць лес у чыстаце, убіраць фаутныя дрэвы, валеж, абкарываць пні і інш. Чыстасьць у лесе, як і для чалавека, неабходныя ўмовы здароўя. У лесе жывуць і плодзяцца шмат карысных і шкодных для яго птушак і зьвяркоў. Да першых належаць: сініцы, шпакі, вьюркі, дзятлы—малы, вялікі і зялёны, філін, лятучая мыш, крот і інш.; да другіх: вавёрка, мыш, саракапуд, віцюцень, горліца, яловы клест і драпежныя птушкі і інш. Першых нельга забіваць і руйнаваць іх кубел, а шкодных неабходна зьнішчаць.



Уздымка зябі ў калгасе „Чырвоная Зара".

Навуковы-Дасьледчы Інстытут Лясной Гаспадаркі і Лясной Прамысловасьці ў гэтым годзе арганізуе сэктар мясцовах дасьледчыкаў і карэспандэнтаў, і зьвяртаецца да ўсёй грамадзкасьці: прыняць удзел, дапамагчы ў дасьледчай працы па змаганьні з яснымі шкоднікамі.

**І. Сакалоўскі.**

**Рэдакцыя—Рэдкалегія.**

Друкарня БДВ імя т. Сталіна. Заказ № 2681. 10.000 экз. Галоўлітбел № 3449.